


# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## СТЫЛІСТЫКА

**ПРАКТЫКУМ**

**МІНСК 2009**

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«МІНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ВЫШЭЙШЫ РАДЫЁТЭХНІЧНЫ КАЛЕДЖ»

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## СТЫЛІСТЫКА

Практыкум
для навучэнцаў I курса

МІНСК 2009

УДК 808.26(075)
ББК 81.2Беи–7
Б43

Рэкамендаваны да друку прадметна-метадычнай камісіяй мовы і літаратуры (пратакол № 3 ад 29.10.2008 г.) і Навукова-метадычным саветам Установы адукацыі «Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж» (пратакол № 3 ад 19.11.2008 г.)

Складальнікі
**Н. М. Акуліч**, выкладчык беларускай мовы і літаратуры МДВРК
**І. Р. Ракей**, выкладчык беларускай мовы і літаратуры МДВРК

Рэцэнзент
**Т. В. Лапкоўская**, вкладчык рускай мовы і літаратуры МДВРК

**Беларуская** мова : Стылістыка : практыкум для навучэн-
Б43 цаў I курса / скл. Н. М. Акуліч, І. Р. Ракей – Мн. : МДВРК, 2009. – 96 с.
ISBN 978-985-526-027-2

У практычны матэрыял па беларускай мове ўвайшлі практыкаванні па стылістыцы беларускай мовы.

Адрасуецца навучэнцам і выкладчыкам каледжа.

**УДК 808.26(075)**
**ББК 81.2Беи–7**

**ISBN 978-985-526-027-2**





## Прадмова

Практычны дапаможнік «Стылістыка беларускай мовы» прызначаецца для навучэнцаў дзённага аддзялення і выкладчыкаў тэхнічных навучальных устаноў.

Складзены практычны матэрыял у адпаведнасці з праграмай па вывучаемай дысцыпліне. У дапаможніку змешчаны разнастайны дыдактычны матэрыял для практычных заняткаў па сучаснай беларускай мове ў межах раздзела «Стылістыка беларускай мовы».

У апошні час акрэсліліся два асноўных кірункі выкладання стылістыкі. Першы з іх – практычная стылістыка, яна вывучае стылістычную афарбоўку моўных сродкаў і мае справу пераважна са стылістычнымі сінонімамі. Другі кірунак – функцыянальная стылістыка – у цэнтры ўвагі ставіць паняцце функцыянальнага стылю, выпрацоўку ўменняў будаваць выказванне з улікам абставін і мэты моўных зносін. Задача стылістыкі – развіваць моўную інтуіцыю навучэнцаў праз усведамленне стылёвай структуры канстэкту.

У практыкуме сумяшчаецца вырашэнне задач функцыянальнай і практычнай стылістыкі. Такога падыходу вымагае, па-першае, неабходнасць захаваць пераемнасць з традыцыйнай (практычнай) стылістыкай, па-другое, патрэба ў канкрэтным, прыватным моўным матэрыяле для раскрыцця палажэнняў функцыянальнай стылістыкі, па-трэцяе, арганічная сувязь стылістыкі з граматыкай і культурай мовы. У дапаможніку вялікая ўвага надаецца чыста стылістычным з’явам. Даюцца значэнні вядомых граматычных паняццяў, катэгорый, якія выкарыстоўваюцца пры стылістычным аналізе. Для праверкі ведаў па вывучаемых тэмах прапануюцца тэставыя заданні. Каб забяспечыць аб’ектыўнасць вывадаў, тэксты для аналізу браліся з твораў вядомых беларускіх пісьменнікаў і навуковых часопісаў. У шэрагу заданняў вызначаны толькі асноўны кірунак працы. Выкладчык можа канкрэтызаваць, дэталізаваць, спрасціць або ўскладніць іх. Пры неабходнасці ён паставіць дадаткова больш вузкія ці, наадварот, болей шырокія пытанні, каб прыйсці да вываду, якога патрабуе ўмова практыкавання.

Гэты практыкум павінен дапамагчы выкладчыкам і навучэнцам узнавіць, сістэматызаваць, пашырыць і паглыбіць стылістычныя веды. Змешчаны ў ім практычны матэрыял дае магчымасць развіваць моўнае чуццё, весці стылістычны аналіз тэксту, выпрацоўваць стылістычныя ўменні і навыкі.

## ЛЕКСІКАЛОГІЯ

**Практыкаванне 1.** *Вызначце мнагазначныя словы і словы-амонімы. Складзіце словазлучэнні ці сказы з імі.*

Басейн, гадзіна, гасцінец, двор, давесці, завод, калыска, кардон, наважыць, рацыя.

**Практыкаванне 2.** *Падбярыце сінонімы і складзіце з імі словазлучэнні ці сказы.*

Векавечны, вёрткі, вітаць, выбачыць, гамонка, маленства.

**Практыкаванне 3.** *Вызначце сінонімы ў сказах. Запішыце іх сінанімічнымі радамі, ставячы на першае месца асноўнае слова.*

1. Смерць пагасіла песняра, забрала ў грозную гадзіну... Але жыве і будзе жыць баяна песня, што з народам прайшла да ясных зор, крыніц усе пакуты і нягоды. *(М. Танк)* 2. І ў якія б крутыя віры ні трапляў народ, сярод яго заўсёды знаходзіліся баяны і скамарохі, кніжнікі і байкары. *(А. Лойка)* 3. Узышоў зноў ясны месяц, на лады ўсе перапеты ў вершах даўніх і сучасных бардаў, песняроў, паэтаў. *(М. Танк)* 4. Героі ніколі не паміраюць. Ім вечна жыць у легендах, песнях. *(«Звязда»)* 5. У сваіх песнях і паданнях народ захоўвае памяць аб сваіх верных сынах і дочках. *(П. Пестрак)* 6. Аб партызанскіх справах расказваюць быліны. *(М. Аўрамчык)* 7. А словы складаць у песні, легенды, балады, сказы я ўзяўся таму, што гэта закінутай праца была, і перад радзімай хацеў я выканаць свой абавязак, каб слава майго народа заўсёды і ў песні жыла. *(М. Танк)* 8. Ён [курган] стаіць – гэта памяць людская, наказ... Толькі гутарка ходзіць такая. *(Я. Купала)*

**Практыкаванне 4.** *Запішыце сінанімічныя рады. Адзначце над кожным сінонімам яго тып (семантычны ці стылістычны).*

1. Адзенне, адзежа, вопратка, адзетак, апранаха, апратка. 2. Іней, шэрань, намаразь, мароз. 3. Свавольнік, гарэза, гарэзнік, распуснік, дураслівец, дуронік, жэўжык, пракуда, накольнік, вісус. 4. Доктар, урач, медык, лекар. 5. Мясцовы жыхар, туземец, тубылец, абарыген, аўтахтон. 6. Прама, напрасткі, наперарэз, нацянькі, на прастак, наўпрост, напрамкі, напярэймы. 7. Марыць, мроіць, летуцець, летуценіць. 8. Асілак, сілач, здаравяка, здаравіла, волат, атлет.



**Практыкаванне 5.** *Самастойна падбярыце да пяці–шасці слоў сінонімы і запішыце сінанімічнымі радамі. Вызначце тып кожнага сіноніма.*

Абрус, адуванчык, абшар, барабаншчык, бацькаўшчына, бурштын, валасы, войска, вядомы, галалёд, годзе, грамада, граніца, гультай, дзік, знарок, кавалак, кінуць, клікаць, кнігаўка, нядаўна.

**Практыкаванне 6.** *Растлумачце значэнне слоў-паронімаў. Складзіце з выдзеленымі паронімамі словазлучэнні ці сказы і запішыце іх.*

Асабісты – асабовы, асобны – асобы, *балотны – балоцісты*, *бескарыслівы – бескарысны*, выдыхацца – вытыхацца, ганарлівы – ганарысты – ганаровы, ганьбіць – ганіць, гутарковы – гутарлівы, давераны – даверлівы – даверны, жаноцкі – жаночы, *запаведны – запаветны*, каранасты – караністы – каранёвы, пераварыць – пераўтварыць, помета – пометка.

**Практыкаванне 7.** *Падбярыце паронімы і ўкажыце розніцу ў іх значэнні.*

*Узор. Вадзяны – вадзяністы, весялець – весяліць.*

Вузлаваты, вянец, навізна, навуковы, надвячорак, палепшаць, першасны, пілаванне, прапіска, прачыніць, пясочны, туляцца, удыхнуць, цікаўны.

**Практыкаванне 8.** *Высветліце значэнне сугучных пар слоў і перакладзіце іх на рускую мову.*

Вар – варыва, дзейны – дзейсны, дзель – дзельнік, змест – змесціва, конік – коннік, лік – лічэбнік, лікавы – лічбавы, месца – мясціна, пакой – спакой, проба – спроба, поўдзень – полудзень, рэч – рэчыва, свет – святло, смятана – смятанка, збожжа – збажына.

**Практыкаванне 9.** *Выпраўце памылкі ва ўжыванні паронімаў і сугучных слоў. Растлумачце прычыны памылак.*

1. Верш «А хто там ідзе?» быў перакладзены кампазітарам Рагоўскім на музыку і служыў пэўны час гімнам беларускага народа 2. Наш народ з'яўляецца самым працоўным народам свету. 3. Я хачу, каб мае будучыя выхавальнікі раслі добрымі, разумнымі і здаровымі дзецьмі. 4. Гэтыя выдатныя словы палажылі канчатак думкам Лабановіча аб сэнсе жыцця. 5. У хаце Алесь Рыбка развітваецца з усімі рэчывамі, размаўляе з сваімі рэчыва-

мі, як з сваімі сябрамі. 6. Імення ў 30-я гады пачалася драматычная творчасць К. Крапівы.

**Практыкаванне 10.** *Да слоў першай групы падбярыце словы з процілеглым значэннем з другой і запішыце іх парамі.*

1. Святочны, запознены, штучны, шчодры, замежны, памылковы, гарачы, плакаць, цвісці, знайсці, працаваць, сумаваць, пачынаць, любіць, дазволіць.

2. Айчынны, правільны, заўчасны, натуральны, халодны, будны, скупы, забараніць, згубіць, гультаяваць, смяяцца, заканчваць, ненавідзець, весяліцца, вянуць.

**Практыкаванне 11.** *Спішыце прыказкі і падкрэсліце ў іх антонімы.*

1. Благі абразіць, а добры разважыць ды яшчэ і парадзіць. 2. Лёгка пасварыцца, цяжэй памірыцца. 3. Лепш адзін прыяцель, як дзесяць ворагаў. 4. На свята падумай пра будзень, а ўлетку пра зіму. 5. Сады садзі і ў маладосці і ў старасці. 6. Быў на возе і пад возам. 7. Мякка сцеле, ды мулка спаць. 8. Згодаю двор збудуеш, а нязгодаю – гатовае разгубіш.

**Практыкаванне 12.** *Дапішыце прыдатныя антонімы ў прыказках.*

1. Не адкладвай на заўтра, што паспееш зрабіць .... 2. Рыхтуй летам сані, а ... калёсы. 3. Новых сяброў набывай, а ... не забывай. 4. Сыты ... не спагадае. 5. Лепей трошкі зрабіць, чым ... нагаварыць.

**Практыкаванне 13.** *Выпішыце антонімы з пераносна-вобразным значэннем.*

1. Але ўсіх гадуюць нас матчыны казкі. Яны вучаць родную мову любіць, на крылах юнацтва ўздымацца пад хмары, з няпраўдай змагацца, а з праўдай дружыць і аб недасяжным і сонечным марыць. *(М. Танк)* 2. Гэтыя пакорлівасць і бунтарства, страх і адвага біліся ў ім асабліва горача тады, калі ён сядзеў на сходзе, сачыў, як то набліжаецца, то адступае яго шчасце. *(І. Мележ)* 3. Звычайна, у каго доўгі язык, у таго кароткая памяць. *(Б. Сачанка)* 4. Маленькі сабачка часта гаўкае зласней за вялікага. *(Б. Сачанка)*



**Практыкаванне 14.** *Спішыце сказы і падкрэсліце ў іх антонімы.*

1. Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына, паміж сваіх і чужакоў яна мне ласкай матчынай. *(Я. Купала)* 2. Як усё пераплялося – старое і новае, вялікае і малое, гераічнае і буднічнае! *(І. Шамякін)* 3. Я адплаціў народу, чым моц мая магла: зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла. *(Я. Купала)* 4. Як многа ў нас звычайнасці! Як мала ў нас адчайнасці! Як многа ў нас прабачлівасці! Як мала ў нас прадбачлівасці!.. Замнога ў хадзе запаволенасці. Замала ў душы задаволенасці. *(Г. Бураўкін)* 5. Нам памагае ўбачыць час: тут – толькі попел, там – алмаз, тут – зерне, там – палова, тут – пустазвонства гучных фраз, там – ісцінае слова. *(А. Вярцінскі)*

**Практыкаванне 15.** *Знайдзіце амонімы, амаформы, амафоны, амографы.*

1. А від які з пляцоўкі гэтай! *(Я. Колас)* На востраве былі розныя віды раслін і птушак. *(Я. Маўр)* 2. Гаспадыня сама выбрала ўсё найлепшае, навязала ў настольнік даволі вялікі вузел, прыладзіла яго сабе на плечы. *(І. Шамякін)* Вузел – гэта мера скорасці ходу суднаў, роўная 1,852 км у гадзіну. 3. Вышываны [кісет] там, дзе горы, на святой зямлі грузін, каб ты ведаў, што і ў горы ты на свеце не адзін. *(П. Глебка)* 4. А раніцай туман над сопкай – густая пара над катлом: знаёма пахла бульбай сопкай, сялом, пакінутым жытлом. *(Р. Барадулін)* 5. Палівае стэпы дожджык бойкі ды шумяць высокія пшаніцы, дзе былі Сламіхінскія бойкі, ноч цяжкая Лбішчанскай станіцы. *(«Звязда»)* 6. Я на елку палячу – усе галінкі палячу. З журавін зрабіў карал, журавы мяне каралі, а суніцы ледзь паспелі, іх дразды скляваць паспелі. *(С. Грахоўскі)* 7. У пакоі селянін азірнуўся на бакі і, развязаўшы аборы з лапця, дастаў з-пад анучы лісток паперы. *(Р. Мурашка)* Былі тут розныя будынкі: гуменцы, гумны і адрынкі, хлявы і стайкі, і аборы, дабра, набытку былі горы. *(Я. Колас)* 8. Калі накруцяць разьбяры, то паспрабуй там, разбяры. *(«Літаратура і мастацтва»)* 9. Вітаю вясну, што прыйшла на палі. *(М. Танк)* Будзі жаўрукамі жытнёвую рунь, палі незгасальную ў небе зару. *(М. Танк)* 10. Кажу сабе: душою не крыві, бо чалавечы век усё ж кароткі, і водгуллем у кожнага ў крыві азвацца могуць прашчуры і продкі. *(С. Грахоускі)*

**Практыкаванне 16.** *Спішыце сказы, падкрэсліце словы, ужытыя ў пераносным значэнні. Вызначце спосаб пераносу, напішыце зверху над словамі (метафара, метанімія, сінекдаха).*

1. Прахор сядзеў моўчкі, касавурыўся на сына. «Бач ты яго – запрашае чалавека, не папытаўшы згоды ў бацькі. Так ён і патрэбен у хаце, лішні рот». *(Л. Дайнека)* 2. Залатое лісце падае пад ногі, падае на галаву, на плечы. *(П. Пестрак)* 3. Блісне сонца над папарам, усміхнецца ясны дзень. *(М. Воранаў)* 4. Я табун сцерагу, а ў ім сто галоў. *(М. Лужанін)* 5. Хвалююцца мінчане, і сэрцаў стук чуцён – аж затаіў дыханне трывожна стадыён. *(А. Вялюгін)* 6. Прыходзяць часта к нам хваробы – і мы пад пахай грэем ртуць. *(Г. Бураўкін)* 7. За вокнамі ходзяць цені ад вішань. *(П. Пестрак)* 8. Назло свінцу, назло агню яны [качкі] ляцяць, ляцяць і верацьу далячынь, у вышыню. *(Л. Дайнека)* 9. «Каму адсунуцца?!» – крыкнула рагатая шапка. *(П. Пестрак)* 10. Брыла па лесе, пазірала сабе пад ногі: цяпер грыбная пара, можа, і трапіць якую сыраежку. *(М. Капыловіч)*

**Практыкаванне 17.** *Спішыце сказы, знайдзіце і падкрэсліце ў іх лексічныя амонімы. Вусна растлумачце значэнне.*

1. А гул, як лава ў кратэры, азартам сэрцы кратае. *(Г. Бураўкін)* 2. На поўнач казацкая лава пайшла, не падлічыўшы ні ранаў, ні страт. *(Л. Дайнека)* 3. Сказаць то сказалі, ды розная справа – вугольная лава і школьная лава. *(М. Лужанін)* 4. Ткуць зоры і месяц яму свае шаты. *(Я. Колас)* 5. А праз месяц, як восень жоўты ліст рассыпала, злегла хворая Люба. *(К. Чорны)* 6. Ключ жураўліны! Гэта ключ, якім адмыкаюць веснія воды, цёплыя подыхі ветру, зялёную неруш, птушыныя гнёзды, вясёлкі і радасць. *(М. Танк)* 7. Бацька ля сына паклаўшы гасцінец, пагладзіў рукой трапятліваю сына. *(А. Аляксандровіч)* 8. Яшчэ не выбіліся на гасцінец, як звечарэла. *(І. Новікаў)* 9. Дзед сядзеў на лаўцы каля печы. *(Я. Колас)* 10. Становяцца ў хатах дзяды па кутах, час агонь паліці, ночкі цень залёг. 11. Косця вельмі любіў слухаць дзедавы байкі. *(А. Якімовіч)* 12. Байка па якасці не ўступае бобрыку. *(А. Звонак)*

**Практыкаванне 18.** *Прачытайце сказы, запішыце спачатку сказы з марфалагічнымі амонімамі, потым – з фанетычнымі і амографамі. Указаныя словы падкрэсліце. Абгрунтуйце свой выбар.*

1. Ноч, густая, як сажа, зберажэ іх [партызан] ад куль, не прадасць і не скажа, хто яны і адкуль. *(П. Глебка)* 2. Я шыю гардэроб на цэлы горад... Я шыю... А мне на шыю... *(М. Лынькоў)* 3. Высокае веча чакала Ікара. І кара чакала Ікара. *(Л. Дайнека)* 4. Сотым потам цела ўспацела, ды пяе сваю песню душ... Гэта штосьці не толькі для цела, гэта штосьці таксама для душ. *(П. Макаль)* 5. Курыцца пара ад пластоў зямлі, і дыхае цяплом разора. *(А. Грачанікаў)* 6. Людзі ў полі; просіць піць бавоўна, і пшаніца просіць: пара жаць... *(А. Вялюгін)* 7. Звярэлі вайною двухногія каты і дзічэлі ад адзіноты каты. *(Ю. Свірка)* 8. Каня быстрая сціхае і не просіць: «Піць-піць-піць!» *(Э. Агняцвет)* 9. Нібы каня, я верш мой падкую умела рыфмай адмысловай. *(А. Вялюгін)*

**Практыкаванне 19.** *Спішыце тэкст, знайдзіце і падкрэсліце сінонімы. Вызначце іх від.*

Вось якімі багатымі адценнямі жывая мова надзельвае некаторыя разуменні. Скажам, жанчына: дзяўчынка, дзяўчына, дзяўчо, дзеўчанё, дзеўчаня, дзеўка, дзявуля, маладзіца, кабета, жанчына, баба. У кожным слове свая эмацыянальная акраса, за кожным стаіць свой вобраз і век – малады, сярэдні, пажылы. Калі пісьменнік ведае прыроду слова, у залежнасці ад карціны, ён можа сказаць: падмерзла, падмарозіла, умарозіла, падшэрхла, прыстыла, зацягнула лядком, стужэла.

*(Ф. Янкоўскі)*

**Практыкаванне 20.** *Спішыце сказы, падкрэсліце антонімы, вызначце іх від. Назавіце, што яны абазначаюць.*

1. Беларусь нікога не забыла, мёртвых і жывых сваіх салдат. *(П. Панчанка)* 2. Мне разгадаць бы вечнасці сакрэт – адмоўнай сіметрычнасці прычыну: святло і цемра, свет і антысвет, хлусня і праўда часу, плюс і мінус. *(А. Русецкі)* 3. Ёсць старыя прычыны для новай размовы. *(Л. Гаўрылкін)* 4. А на зямлі і шчасце і вайна, дабро і зло ў адвечнай жорсткай схватцы. *(А. Грачанікаў)* 5. Благая кампанія і добрага псуе. *(Прыказка)* 6. З маленькіх радасцей і бедаў складаюцца і дзень, і ноч. *(С. Грахоускі)* 7. Далёка ці блізка ты, доктар вайсковы? Мы разам з табою ішлі па вайне. *(П. Прыходзька)* 8. Не абмінулі новыя захапленні і мяне – то кароткія, то доўгія, то лёгкія, то моцныя. *(А. Марціновіч)*

**Практыкаванне 21.** *Да выдзеленых слоў падбярыце антонімы.*

Салодкі яблык, сухі бераг, шырокая дарога, вялікі дзень, белы хлеб, *хворы* чалавек, гаварыць *хутка,* рана ўставаць, многа

зрабіць, светлая паласа, *цвёрдая* зямля, гарачая вада, *праўдзівая* гісторыя, *тоўстая* вяроўка, цёплы дзень, добра ведаць, прыязджаць у горад.

**Практыкаванне 22.** *Пры дапамозе прыставак утварыце антонімы. Запішыце гэтыя пары слоў.*

Падземны (пераход), уліваць (ваду), адчыніць (дзверы), смачны (пірог), хмарнае (неба), звычайныя (абставіны), ідэйны (твор), рэлігійны (змест).

**Практыкаванне 23.** *Спішыце сказы, знайдзіце і падкрэсліце паронімы. З дапамогай «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» ў 5-ці тамах растлумачце іх значэнні.*

1. Затраты на будаўніцтва вадаёма і дажджавальнай устаноўкі акупяцца за паўтара-два гады. *(«Звязда»)* 2. Дажджавая вада застаецца на паверхні зямлі, а часткова прасочваецца ў зямлю. *(Я. Колас)* 3. Неба было шэрае, халоднае, нібы ў познюю дажджлівую восень. *(М. Лынькоў)* 4. Ды што паробіш, надта ж ранняй і дажджыстай была вясна гэтая. *(М. Вышынскі)* 5. Яны дзялілі матчын хлеб счарсцвелы, абцёршы на хаду з засмяглых вуснаў пыл. *(А. Лойка)* 6. Апетытна ззяюць залацістым тлушчам засмажаныя, начыненыя яблыкамі індычкі. *(І. Навуменка)* 7. У час сяўбы заўсёды трэба было лепш карміць запражных, рабочых коней, а не маладняк. *(«Звязда»)* 8. Пасярод Зазыбавага двара стаяў запрэжаны ў калёсы на жалезным ходу буланы конь – з тых, што пакінулі калгасу ўзамен артылерысты. *(І. Чыгрынаў)*

**Практыкаванне 24.** *Выпішыце словы спецыяльнай лексікі. Вызначце, да якой галіны навукі ці сферы дзейнасці яны адносяцца, іх разнавіднасць (тэрміны ці прафесіяналізмы).*

Прыметнік як самастойная часціна мовы перажыў істотныя змены ў параўнанні з агульнаславянскім перыядам; яны перш за ўсё – у гісторыі кароткай і поўнай формы, у страце формы парнага ліку, ва уніфікацыі формы ў некаторых склонах, напрыклад у назоўным множнага ліку. Гісторыкі мовы з пэўнасцю лічаць, што поўныя прыметнікі – вытворная форма, што «першапачаткова» прыметнікі мелі толькі кароткую форму.

*(Ф. Янкоўскі)*



**Практыкаванне 25.** *Выпраўце сказы, у якіх дапушчаны памылкі ў выкарыстанні фразеалагічных сродкаў мовы. Растлумачце характар памылак.*

1. Бераг быў такі круты, што аж дух заміраў. 2. Пятро вытрымаў хімію на «выдатна». 3. Усе моўчкі ўладкоўваліся на сваіх месцах, але хутка агульную цішыню парушыў нізкі голас жанчыны. 4. І вось мы выходзім на пасадачную пляцоўку з душой, якая ўвайшла ў пяткі. 5. Яны з уласнага вопыту пераканаліся ў эфектыўнасці гэтага эксперыменту. 6. Вялікае значэнне ў павышэнні вытворчасці працы ірае правільнае размеркаванне рабочага часу. 7. Даўно ўжо настаў час падвесці плады дзейнасці гэтай перадавой брыгады. 8. Камсамольцы выканалі сваё слова, якое далі на абласной канферэнцыі. 9. Іх праца не прайшла марна, яна дала добрыя вынікі. 10. Да яе ў галаву прыйшла прывабная думка. 11. Галава ў Лёнькі так балела, што ён узяў яе аберуч. 12. Праўда, калі да мяне дайшло, што ўсім ім патрэбны падарункі, я пачаў чухаць цемя. 13. Эх, думаю, пакуль сутнасць ды справа, схаджу лепш у лазню, вымыюся як трэба, бо як бы там ні было, на нашу вуліцу ідзе свята. 14. – Добрага дня! – віншую я прадаўшчыцу. Апошняя невядома чаму прысела за буфет, сагнулася там, зрабіўшы выгляд, што нічога не пачула або не зразумела маіх слоў! Я задумаўся, падыходжу бліжэй да буфета, ды ўспомніў пагаворку, што для глухіх дзве абедні не служаць, а хаця б і служылі, то вынікі аднолькавыя. Я рашыў, як кажуць, браць адразу быка за рогі. У прадаўшчыцы, як вы ўжо заўважылі, рогі нявetлівасці толькі яшчэ прабіваліся на паверхню. 15. Увайсці ў давер'е маладой жывёлы – не лёгкая справа для пачынаючай даяркі. 16. Я так-сама чалавек і таксама хачу гучаць горда. 17. Ён проста спіхнуў гэту справу са сваёй галавы, накіраваўшы яе ў райком камсамола. 18. У твары ўсёй грамадскасці ён канчаткова страціў давер'е. 19. – Кінь ты валяць камедыю, – сказаў нарэшце яго спадарожнік. 20. Я даю слова гонару, што гэту ганебную пляму на сваёй біяграфіі апраўдаю.

**Практыкаванне 26.** *Выпраўце сказы, замяняючы няўдалыя словы сінонімамі і сінанімічнымі выразамі.*

1. «Масквіч» спраўна працягваў шлях наперад. 2. Галаву яго пачало займаць пытанне, адкуль мог з'явіцца ў гэтай мясцовасці такі чалавек? 3. Пасля невялікіх збораў піянеры рушылі ў паход.

4. Ураджай з палёў быў даўно ўжо зняты. 5. Вакол стаялі высокія горы, вышыні якіх былі пакрыты снегам. 6. Падарожнікі з любоўю азіраліся навакол, любуючыся яркімі фарбамі сонечнай вясны. 7. У лесе спяваў аглушальны ансамбль птушак. 8. Андрэй з глыбокай цікавасцю пазіраў у акно, як з-за лесу выкачвалася сонца. 9. Непагода працягвалася некалькі дзён. 10. Начную цішыню разбівала толькі мернае чмяканне гразі пад нагамі партызан. 11. Марыля шпарка нацягнула на ногі басаножкі і выскачыла на ганак. 12. Летам нас вельмі прыцягваюць да сябе лес, луг, рэчка. 13. Большасць пасажыраў складалі юнакі і дзяўчаты. 14. У куточку ляжала некалькі кавалкаў шэрай тынкоўкі, якія, відаць, абсыпаліся са сцяны. 15. Ён з усмешкай заўважыў, што добры настрой добра адлюстроўваецца на рабоце. 16. Нарэшце мы вырашылі пакінуць гэты бескарысны занятак. 17. На зыходзе дня рыба пачала кляваць больш актыўна. 18. Сонца ўзнялося вышэй і пачало шпарка прыграваць плечы. 19. У Якубавай торбе прысутнічаў вялікі шчупак. 20. Яму здалося, што нейкая драпежная жывёла хоча напасці на яго з цемры лесу. 21. Дзяўчына сказала, што яны пайшлі ў лес і згубіліся. 22. З кожным годам у Беларусі павялічваецца будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў. 23. Пятро з прагнасцю ўзяўся за трэніроўкі, марачы толькі аб адным: абавязкова выйсці пераможцам. 24. Вецер быў такі інтэнсіўны, што перакульваў з ног чалавека. 25. Трэба вельмі ўважліва паклапаціцца аб тым, каб асабістаму складу гаража былі забяспечаны ўсе ўмовы для прадукцыйнай працы. 26. Камсамольцы завода праявілі нямала каштоўных пачынанняў. 27. Кніга ў жыцці, быце і ў працы чалавека займае велізарнае месца. 28. Круглыя суткі кіпіць напружаная работа на станцыі Жлобін. Амаль няспынна прыбываюць і адпраўляюцца паязды, адбываецца фарміраванне і расфарміраванне саставаў.

**Практыкаванне 27.** *Запішыце сінанімічныя рады слоў і ўстойлівых словазлучэнняў са значэннямі* ісці, гаварыць. *Падкрэсліце дамінанту, вызначце, да якіх сінонімаў (семантычных, стылістычных, семантыкастылістычных) належаць выпісаныя словы.*

**I.** 1. Ідуць салдаты, і дзіўна, прыемна падумаць, што кожны з іх быў малы, што кожны з іх абцалаваны мамай. *(Я. Брыль)* 2. Малая нянька часта думае, як гэта добра будзе, калі іх Васіль сам навучыцца тэпаць. *(Я. Брыль)* 3. Па густой і глыбокай траве сігае цыбатымі, загарэлымі ножкамі бабіна Міла, збірае кветку да кветкі. *(Я. Брыль)* 4. Быстрая, не па гадах шустрая бабка Кацярына прашнуравала да стала і ўціснулася паміж людзей на ўслон. *(В. Палтаран)* 5. Жаўнеры смалілі гасцінцам, ачышчалі мясцовасць гэтак шпарка, што аніводная часць не магла ўжо больш затрымлівацца тут доўга. *(К. Чорны)* 6. Несцер некалькі часу прастаяў на адным месцы каля пахіленага ліхтара, потым пахіліў убок. *(Ц. Гартны)* 7. Чым сустрэла мяне мая вуліца, як я выходзіў? Мы жылі з ёй у згодзе, былі амаль што сябрамі, шырыню, даўжыню яе ўласнымі змераў нагамі. *(А. Куляшоў)* 8. Мае ногі нясуць мяне ў сад, не магу іх стрымаць я. *(А. Куляшоў)* 9. Б'е гадзіннік. Прыгадваю я, што мы ў лесе, не дома. Дзе вандруе мая сям'я, жонка, дзеці мае? Невядома. *(А. Куляшоў)* 10. Улетку ён лавіў рыбу, збіраў ягады, грыбы; узімку, пачапіўшы за плечы стрэльбу, блукаў па лесе. *(Б. Сачанка)* 11. Без дарогі проста па полі доўга брысці не будзеш – стомішся. *(Б. Сачанка)* 12. Але і там, у змрочнай навісі галля, я не спыніўся, а пашыўся ў гушчар, у калючыя зараслі. *(Б. Сачанка)* 13. Мы, дзеці, пацягнуліся след у след за бацькам і маці. *(Б. Сачанка)*

**II.** 1. Травы сохлі і жоўклі, прыгожыя кветкі тужліва хілілі свае зграбныя галоўкі, дарэмна шукаючы цяньку, і сохлі без часу. Глухі шум, нараканне пайшлі па лузе, трывожна гаварыў луг пад гарачым ветрам. Пачалі травы і краскі судзіць-разважаць, вышукваць прычыны такога няшчасця. Адзін казаў тое, другі – другое, – і ўсе шумелі, ніхто не слухаў нікога, і толку ніякага не дабіліся. *(Я. Колас)* 2. Ён прыпыніўся на сярэдзіне вуліцы між воласцю і школаю, закінуў галаву і гаркнуў натхнёна, працягла, з музычнымі пераліва́мі: «Выганяй!» *(Я. Колас)* 3. «Го, падмарожваць пачало!» – весела прамовіў паляшук Сцяпан Рылка. *(Я. Колас)* 4. Грышка падняў над узмежкам голаў і праз вецер роспачна, гарачна загаманіў. *(В. Быкаў)* 5. Тады Зазыба выкарыстаў момант і цыкнуў на Ганну, як на нявестку. *(І. Чыгрынаў)*

**Практыкаванне 28.** *Прачытайце прыклады і скажыце, з якой мэтай аўтары ўжываюць паралельна два і больш сінонімаў.*

**I.** 1. Над светлай галавой Радзімы гучыць, грыміць мелодыя вясны! *(А. Звонак)* 2. Гудзе, шуміць вялізны горад у промнях яркае зары. *(П. Прыходзька)* 3. І чаруе, і варожыць шаўкавістая трава. *(М. Хведаровіч)* 4. Закалыхалася, затраслося Палессе! *(Я. Колас)* 5. Вецер ірве, вые, скавыча. *(І. Навуменка)* 6. Пацяклі, паплылі за гадамі гады. *(Я. Кулала)*

**ІІ.** 1. Гераізм – гэта найвышэйшае праяўленне смеласці, адвагі. *(І. Шамякін)* 2. Век не пражыць – гэта ведае кожны – без непакою, без дум і турбот. *(К. Кірэенка)* 3. Выццё і свіст завірухі за акном і ў коміне яшчэ больш падкрэслівалі пустэчу і цішыню. *(І. Шамякін)* 4. Не шукай ты шчасця, долі на чужым далёкім полі. *(Я. Кулала)* 5. Спакой і цішыня пануюць над зялёнымі аксамітам і балот і лясоў. *(Я. Колас)*

**ІІІ.** 1. Па-святочнаму ўрачыста люд наш вольны пахаджае. *(Я. Кулала)* 2. Ніколі не думаў ніхто і не марыў найлепш, прыгажэй, чым пра родны свой край. *(А. Астрэйка)* 3. Памалу, мерна крок за крокам у сваім раздум'і адзінокім дадыбаў бацька скора к дому. *(Я. Колас)* 4. Шумна і гучна ўлетку на беразе Нёмана. *(Я. Колас)* 5. Усё ціха, мёртва, нерухома. *(Я. Колас)*

**Практыкаванне 29.** *Падбярыце сінонімы да слоў* залатая, халодны, правесці, стары, браць, разбіть, завялі.

Залатая (галава), залатая (восень); халодны (вецер), халодны (прыём); правесці (дарогу), правесці (уборку); стары (часопіс), стары (чалавек); браць (кнігу), браць (крэпасць); разбіць (ворага), разбіць (парк); завялі (сабаку), завялі (песню).

**Практыкаванне 30.** *Складзіце сказы, у якіх былі б выкарыстаны побач наступныя сінонімы:*

калісьці, даўным-даўно; зрэдку, дзе-нідзе; па-святочнаму, ўрачысты; рогам, нечакана; номер, задума; страх, боязь; вартаваць, берагчы; храбры, смелы; цвёрды, стойкі; заціхнуць, супакоіцца.

**Практыкаванне 31.** *Перапішыце, размяшчаючы сінонімы ў парадку ўзрастання ступені іх значэння.*

Праціўнік, вораг, нядобразычлівец, непрыяцель; радасць, захапленне, задавальненне; гоман, размова, гутарка; натхненне, энтузіязм, зачараванне; грудок, горка, прыгорак, падвышэнне; няшчасце, катастрофа, ліха, бяда, гора; развіццё, рост, росквіт, працвітанне; малы, невялікі, малюсенькі, мініяцюрны, маленечкі, мікраскапічны; хуткі, імгненны, праворны, імклівы; здольны, геніяльны, таленавіты, разумны, кемлівы; ісці, крочыць, шыбаваць, валачыся, плесціся, ступаць; гаварыць, шаптаць, крычаць; шумець, стукаць, грукаць, барабаніць, бухаць; весяліцца, радавацца, забаўляцца, святкаваць, цешыцца.



**Практыкаванне 32.** *Растлумачце значэнне фразеалагізмаў, падбярыце сінанімічныя ім выразы. Складзіце з імі сказы.*

На лес гледзячы, задраўшы нос, не зводзячы вачэй, прапусціўшы міма вушэй, не шкадуючы сіл, не пераводзячы духу, не даючы спуску, вылупіўшы вочы, не пакладаючы рук.

**Практыкаванне 33.** *Прачытайце сказы з кожным (прапанаваным у дужках) словам. Раскажыце, як мяняецца сэнс выказвання.*

1. Ён (пацвердзіў, паўтарыў) адрас і працягваў расказваць далей. 2. Яна (ускочыла, падхапілася) з лаўкі і пайшла. 3. Апынуўшыся на беразе, мы пачалі (скрэбці, чысціць, патрашыць) рыбу для юшкі. 4. Перада мною (ляжала, прасціралася) велічная рака ў сваёй гранітнай пасцелі. 5. Архімед (імкнуўся, стараўся, хацеў) сонечнымі промнямі праз павелічальнае шкло падпаліць ветразі карфагенцаў. 6. На захад няспынна (рушыцца, сунецца) нейкая шэрая калона людзей. 7. Іван паказаў рукою на хаціны, што (паказаліся, узніклі) за паваротам ракі. 8. Да нашай хаты была прыбудавана стайня, дзе (памяшчаліся, стаялі, былі) коні.

**Практыкаванне 34.** *У наступных прыкладах выпраўце памылкі ў выбары слоў.*

1. На другую работу, якая б не была яе спецыяльнасцю, Соня перайсці не захацела. 2. Тэатру патрабуюцца рэжысёры, балетмайстры, дырыжоры і іншыя дэфіцытныя спецыяльнасці. 3. Месцамі пясок на пляжы перахадзіў у шэры колер. 4. Лешч патрабуе ад рыбалова цярплівасці і настойлівасці. 5. Вучоба на вячэрніх курсах ідзе лепш, чым у мінулым годзе: запрошаны вопытныя выкладчыкі, павысілася і засваяльнасць слухачоў. 6. Упершыню за ўсю старажытную гісторыю Кітая ўведзена паўсямесна сістэма сацыяльнага страхавання. 7. Раённы прапагандыст Сяляеў з'яўляецца прыкладам таго, як трэба ўзбройваць шырокія народныя масы палітычнымі і навуковымі ведамі. 8. Аграном скардзіўся, што большасць часу ўходзіць на пісанне справаздач і запаўненне шматлікіх анкет, а ў калгасы трапляць яму даводзіцца толькі ўрыўкамі. 9. Усе моўчкі ўладкоўваліся на сваіх месцах, але хутка агульную цішыню парушыў нізкі голас жанчыны. 10. Зямля, якая ў абсалютнай большасці належала раней польскім панам і царкоўнікам, стала набыткам усяго народа.

**Практыкаванне 35.** *Спішыце тэкст, падкрэсліце антонімы, падбярыце да іх сінонімы, запішыце сінанімічныя рады.*

Не наглядзецца на воблакі ў бязветраны дзень. Яны могуць расці, могуць знікаць, як дым. У ветраны дзень часцей бываюць нізкія воблакі. Яны імчацца па небе на адной вышыні, як ганцы. Шпарка, без аглядкі, гуртам. Сонца між іх то выгляне, то схаваецца. А зірнеш угору, вышэй верхавіння дрэў, туды, дзе бягуць шпаркія воблакі, бягуць здалёк ці зблізку, і падумаеш: «Гэта жыццё імкліва бяжыць. Якое яно імклівае!..» Воблакі бываюць высокія і нізкія, рэдкія і суцэльныя. Адны прыносяць яснасць, пагоду, другія – непагадзь і навальніцу.

*(І. Грамовіч)*

**Практыкаванне 36.** *Выпішыце са сказаў фразеалагізмы, аб'яднайце іх ў сінанімічныя рады. Раскажыце пра сінанімічнасць фразеалагізмаў.*

1. За культуру ў нас трэба змагацца па-сапраўднаму, трэба нават біць у званы!.. *(Я. Брыль)* 2. Зірні, Даніла: такі самы, як ты, і крошачкі пабраў, і губкі гэтак жа зацяў. *(Я. Колас)* 3. І рэчка пад бокам, і процьма ў ёй рыбы. *(Я. Колас)* 4. Дык што ж я часам б'ю трывогу, чаму, пра што хачу згадаць? Ці не таму, што, узяўшы многа, не змог на столькі ж і аддаць. *(К. Кірэенка)* 5. Цяжка, брат, ісці, ужо выбіліся з сілы. *(М. Танк)* 6. «Па сваю ўдавіную долю злуе, а разам і на тых, хто не ў яе руку гаворыць», – растлумачыла Зося па-свойму. *(К. Крапіва)* 7. Пісар, як відаць, стараўся пусціць трохі пылу ў вочы. *(Я. Колас)* 8. Будынкі ўсе на адзін лад. *(Я. Колас)* 9. Калі яна зваліцца з ног – каб хоць слова хто ёй сказаў добрае. *(К. Чорны)* 10. За хараство і вось за гэту цёплую усмешку і ўзяў Юзік Зосю. Згаладаўся ён у панурай суровай сям'і па ласкавым хлебе ды прыветнай усмешцы. А бацьку ды мачасе гэта не ў нос. *(К. Крапіва)* 11. Цяпер вось і вясна не за гарамі. *(Я. Брыль)* 12. Ды яны ж аднаго поля ягады. *(А. Макаёнак)* 13. Прабавала Аўдоля, застаўшыся салдаткаю, сама гаспадарыць, дык дзе ж вы бачылі... Натузаецца жанчына за дзень, прыедзе дадому – ні рук ні ног не чуе. *(К. Крапіва)* 14. Да дому роднага цяпер адсюль рукой падаць. *(А. Вялюгін)* 15. У Амерыцы любяць, як кажуць, напусціць туману, замыльваць вочы вонкава прыгожанькім ці занадта пампезным. *(М. Лужанін)*



**Практыкаванне 37.** *Выберыце крылатае выслоўе, зрабіце яго загалоўкам (тэмаю) вашага сачынення. У сачыненні выкарыстайце фразеалагізмы, прыказкі (прымаўкі), перыфразы.*

1. Дзе пройдуць ногі маладосці, дыхне і мёртвая зямля. *(А. Звонак)* 2. Гордасць – таксама, мабыць, жаночае хараство. *(Я. Скрыган)* 3. Любоў і дружба шчасце росцяць. *(А. Александровіч)*

**Практыкаванне 38.** *Спішыце тэкст. Выберыце з прыведзеных у дужках адпаведнае слова. Аргументуйце свой выбар.*

Паслухаем Палессе... Навокал такая ціша, што ні пра што не хочацца ні думаць, ні (гаварыць, гаманіць, казаць, размаўляць). Нават не верыцца: няўжо ў наш век, калі такое (бурнае, вірлівае, кіпучае, нястрымнае, раз'юшанае, шалёнае) жыццё, калі ты не знаходзіш сабе месца ад (велізарнай, вялікай, вялізнай, буйной, гіганцкай, грандыёзнай, значнай, неабдымнай, неабмежаванай, невычарпальнай) колькасці (звестак, інфармацыі, паведамленняў), якая проста ціснe на цябе, калі, куды б ні пайшоў, ні паехаў, усюды машыны, усюды шум і грукат, – няўжо яшчэ захавалася такая (некранутая, нечапаная, першабытная, першапачатковая) ціша? Якая ж гэта асалода – дыхаць ёю.

Цішыня і асенні лес. Спакой і царства фарбаў, колераў. Не (зварухнецца, паварушыцца, скранецца) ні адна галінка на дрэве. А дрэвы ў гаі – быццам у казачным (будынку, доме, палацы). Верасень ужо (кінуў, шпурнуў) на бярозы крыху розных фарбаў. Вось праляцеў бярозавы лісток, (апусціўся, знізіўся, сеў) ціха на (глебу, дол, зямлю). Раптам такі лісток лёг мне на плячо. Я асцярожна ўзяў яго. Яшчэ засталіся на дрэвах яго браты, а ён ужо (аджыў, згінуў, памёр, развітаўся з жыццём), пакінуў родную галінку. Але ж угледзьцеся ў яго. Колькі сонечнага цяпла (дало, удзяліла, удружыла, падаравала) лісточку лета. І мне здаецца: часцінка гэтага цяпла так і засталася ў ім.

*(«Полымя»)*

**Практыкаванне 39.** *Запішыце тэкст, выбіраючы тое слова ў дужках, якое адпавядае зместу і стылю выказвання. Аргументуйце лексічную спалучальнасць выбранага слова.*

1. Хутка Уладзік адчуў, што сілы яго (завяршаюцца, здаюць, канчаюцца), што ён нізашто не даплыве да берага. 2. Хлопцы нашы непрыкметна пераймаюць і яго (гаворку, гутарку, размову) і нават (хаду, хадзьбу, ход, паходку, поступ). 3. Трагічны выпа-

дак (забраў, абарваў) яго жыццё. 4. Беларуская рэчаіснасць (жывіла, харчавала) навуку, фальклор і літаратуру Літвы, Польшчы і развівалася сама ў акружэнні іх культур. 5. Глуха (грымяць, стукаюць) сякеры. 6. З боку станцыі пачуліся (грамавыя раскаты, грымоты). 7. Я доўга глядзела на пажоўклае лісце, што гойдалася на хвалях Нявы, на (сталёвы панцыр, шэрую роўнядзь) вады. 8. У Лондане ўсё больш гавораць аб (завяршэнні, заняпадзе, канцы, фінале) тэатра, а не яго развіцці. 9. Неапаль – горад буйных і яркіх кантрастаў як у архітэктуры, так і ў людзях, якія яго (напаўняюць, насяляюць). 10. Мы ўзабраліся на самую (верхавіну, вяршыню) Акропаля, дзе стаіць мачта, з якой малады грэк-патрыёт Маноліс Глезас у часы нямецкай акупацыі садраў флаг з фашысцкай свастыкай і вывесіў нацыянальны, грэчаскі. 11. Горла мае (скавалі, сціснулі) спазмы. 12. Бура (павыдзірала, павывaрочвала) з каранямі дрэвы. 13. Соль тут, у (скрыначцы, карабку) ад запалкаў. 14. Мама (лаяцца, сварыцца) будзе за наша спазненне. 15. Нашы позіркі (спаткаліся, сустракаліся). 16. Мы вельмі (любім, кахаем, шануем) сваю работу.

**Практыкаванне 40.** *Прачытайце выразна тэкст. Вызначце стыль, тып тэксту, асаблівасці беларускага літаратурнага вымаўлення.*

Вуснапаэтычная творчасць з глыбокай старажытнасці і да нашага часу адыгрывае важную ролю ў духоўным жыцці народа. У ёй адлюстраваны вялікі жыццёвы вопыт працоўных, іх думкі, мары, настроі, светапогляд, маральна-этычныя прынцыпы і нормы жыцця. Для працоўнага народа, які ў большасці раней быў бяспісьменны, фальклор у пэўнай ступені замяняў літаратуру, а таксама прафесійнае музычнае і тэатральнае мастацтва. У стварэнні і распаўсюджванні песень, казак, легенд, прыказак, прымавак, прыпевак і іншых жанраў удзельнічалі многія людзі. Гэта не азначае, што ў творчым працэсе стварэння фальклорных твораў ніякай ролі не адыгрываў асобны чалавек. Многія таленавітыя народныя спевакі і казачнікі складалі песні, казкі або іншыя творы, карыстаючыся паэтычнымі формамі і сродкамі мастацкай выразнасці, выпрацаванымі на працягу стагоддзяў. Яны выказвалі думкі і пачуцці ўсяго калектыву, адлюстроўвалі яго светапогляд. Паступова ствараліся пэўныя творчыя традыцыі і прынцыпы. Фальклорныя творы за час бытавання набывалі ўстойлівую форму і змест.

*(А. Фядосік, Г. Пятроўская)*



**Практыкаванне 41.** *Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып. Абгрунтуйце сваю думку.*

Летам, куды ні кінеш вокам, чаруе зялёная прастора і прыгажосць. У полі бяскрайнім морам бушуе жыта. Коцяцца пад лёгкімі павевамі ветрыку зялёныя хвалі, коцяцца і коцяцца. І калі над гэтым жытнёвым морам раптам падымаецца вецер, міжволі падасца табе, што гэта сапраўды мора, у якім дзесьці на небасхіле разгульвае на лёгкай хвалі малюсенькі паруснік.

Узлескі і паляны патанаюць у белых карунках лёгка-крылых рамонкаў, у бірузе зязюльчынага лёну і браткоў, у тонкім перазвоне ліловых званочкаў.

Хараша летам у лузе. Сухое паветра моцна настоена на тонкім водары ружовай смолкі, на мядовым паху чырвонай канюшыны. Хараша гэтай парой паляжаць у цяньку дрэў, або кінуцца ў асвяжаючую бездань возера. Так хараша, што аж заспяваць хочацца ад радасці.

*(Паводле Р. Ігнаценкі)*

**Практыкаванне 42.** *Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып. Абгрунтуйце сваю думку.*

Хвалі Нёмана, наднёманскія сенажаці, лясы і нівы былі калыскай для мастацкай музы многіх беларускіх паэтаў на чале з Якубам Коласам. Хараство беларускай прыроды, «брыльянцістыя росы» на лугах, дзе бяжыць Нёман, разложыстыя дубы ў гаі, адзінокія грушы на полі, спелыя нівы з валошкамі, высокія хвоі прыбярэжных лясоў, якія сплялі вянкі з карэнняў на берагах Нёмана, – усё гэта давала фон для тэматыкі сялянскай паэзіі. Але ў сівога дзеда, беларускага Нёмана, ёсць не менш слаўная і прыгожая сястра Нарач. Яна нібы пакрыўдзілася, што так доўга абміналі яе ў беларускай паэзіі, і, пакрыўдзіўшыся, паслала туды свайго прадстаўніка – маладога песняра. Вось крыніцы, адкуль выцякае багатая лірыка Максіма Танка. Яго мастацкая муза зарадзілася ў звонкім шуме меднастволага нарачанскага бору. Чорныя скібы палёў, пеністыя хвалі Нарачы і Мястры, а пазней шырокія этапныя дарогі былі яе калыскай. Гадавалася яна разам з паэтам пад шум непагоды, пад крык чаек і звон кайданоў.

*(Р. Шырма)*

**Практыкаванне 43.** *Прачытайце тэкст, знайдзіце і выпішыце іншамоўныя словы і растлумачце іх значэнне.*

Людзі навучыліся цаніць прыродныя багацці балот. Скарбы Палесся шырока здабываюцца і ўсебакова выкарыстоўваюцца ў народнай гаспадарцы. З кожным годам будуць яны здабывацца і выкарыстоўвацца ва ўсё большых і большых памерах. Некаторыя з гэтых скарбаў былі вядомы даўно. Імі карысталіся яшчэ нашы продкі, а некаторыя заставаліся некранутымі да апошняга часу. Нафта і соль выяўлены толькі нядаўна ў выніку настойлівых пошукаў вучоных.

Час ідзе. Новыя часы выклікаюць новыя вялікія змены. Працуюць на Палессі магутныя экскаватары, канава-капальнікі, кустарэзы, бульдозеры. Пракладаюцца новыя дарогі і новыя каналы. З'яўляюцца новыя дамбы, шлюзы і вадасховішчы. Каласяцца нівы на адваяваных ад балота ўрадлівых землях. Квітнеюць маладыя сады. Растуць новыя прамысловыя прадпрыемствы, новыя электрастанцыі. Узнікаюць новыя гарады, новыя пасёлкі. Будуюцца новыя зручныя хаты, новыя школы, бальніцы, бібліятэкі, клубы, лазні, кінатэатры. Новае аблічча набывае Палессе.

*(«Полымя»)*

**Практыкаванне 44.** *У сказах кожнага абзаца знайдзіце сінонімы. Выпішыце іх у сінанімічныя рады.*

**I.** 1. Адзежа, прамоклая да апошняй ніткі, прыклеілася да цела і зусім не трымала цяпла. *(І. Мележ)* 2. Кухцік памаўчаў, падумаў, расшпіліў і зноў зашпіліў сваю вопратку і паставіў Сцяпана на ногі. *(К. Чорны)* 3. Булкін чапляўся за лодку, барахтаўся, каб як-небудзь утрымацца на паверхні вады, бо мокрае адзенне цягнула на дно. *(І. Мележ)* 4. Пякло лета спёкай, ты, уся зацяганая, злівалася потам крывавым, а восень студзіла бязлітасна, трос вецер адзеткам дзіравым. *(Я. Кулала)* 5. Невыдумная світка – убор на плячах... *(Я. Кулала)* 6. У белым убранні прыходзіць вясна... *(П. Глебка)* 7. Апратка ў яго паабрываная. *(Я. Кулала)* 8. Усё абмундзіраванне гэтага байца, рукі, твар, шыя былі ў чырвані... *(А. Кулакоўскі)* 9. Разам з людзьмі перамяшчалася незлічоная колькасць бог ведае якім чынам назбіраных і ацалелых трантаў. *(М. Лужанін)*

**II.** 1. Нарвегія... Высокіх гораў сінь і ветразі рыбацкія ў фіёрдах... *(П. Панчанка)* 2. Высачэзны пад'ёмны кран з зашклёнай кабінай працягнуў рабрыстую стралу над будоўляй. *(Т. Хадкевіч)* 3. Вежа. Паднябесны мінарэт. *(А. Пысін)* 4. Даўгавязы і бледнатвары юнак – Лукаш Калюга не вельмі быў гаваркі. *(М. Хведаровіч)* 5. Выносістыя сосны гаманілі з небам. *(А. Чарнышэвіч)* 6. Да калодзежа падышоў рослы з чырвонай зоркай на шлеме салдат. *(М. Лобан)* 7. Назаўтра сапраўды прыехаў прадстаўнік саюза паляўнічых – сажнёвага росту дзядзька, у высокіх, за калені, ботах, з двухстволкай за плячыма. *(А. Якімовіч)* 8. Калі ўваходзілі ў пройму дзвярэй, то бачылі вакол высачэнныя сцены. *(І. Мележ)*

**III.** 1. З дурнога куста і шост нялюдскі. *(Прыказка)* 2. Неспакойнаму духу гаспадара работа яго здаецца нездавальняючай. *(Я. Брыль)* 3. Без кавалка хлеба кепская бяседа. *(Прыказка)* 4. Добрая слава ў кошыку ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць. *(Прыказка)* 5. Учынкамі не абурае клас, чацвёркі зарабляе іншы раз – адмоўнага ў ім амаль зусім не стала. *(У. Карпаў)* 6. Піша няўдалыя вершы, якія не друкуюць. *(І. Навуменка)* 7. На гэтай зямлі нават і грэчка нічога не варта. *(Я. Брыль)* 8. «Сам, як той казаў, граша не варты, дзеці затое – слава богу», – гаварыў Лапінка. *(Я. Брыль)* 9. Нялюдская кампанія і добрага звядзе. *(Прыказка)* 10. Васіль не першы раз прыходзіў дадому ў такі позні час. Знала Алеся сабачую леснікову службу... *(Я. Колас)*

**IV.** 1. Вакол панавала цемрадзь, і сцежкі зусім не было відаць. *(М. Лынькоў)* 2. Цемень наступіла нечакана. *(Э. Самуйлёнак)* 3. У сутонні снежнае ночы там відаць былі сілуэты аўтамабіляў. *(В. Быкаў)* 4. Чарната – не відаць нічога за пяць крокаў. *(Б. Сачанка)* 5. У поцемках нельга было разабраць, з неба гэта сыплецца ці з верхавін дрэў. *(Я. Кулала)* 6. Пройдзе ночка, згіне цьма... *(Я. Колас)*

**V.** 1. Дзімка ўцёк з піянерскага лагера. *(П. Кавалёў)* 2. Як бы мне змыцца ад суседства такога? *(П. Кавалёў)* 3. Сам пан ледзьве паспеў пяты падмазаць. *(К. Чорны)* 4. Стаіць дзед і на іх глядзіць, дзівуецца, не разумеючы, чаго яны драпака далі. *(М. Лынькоў)* 5. І надумаўся хлапчына даць адгэтуль драла. *(Я. Колас)* 6. Ты, пэўна, ад кахання збег... *(Е. Лось)* 7. «Глядзі, каб не ўлізнуў гэты здраднік», – папярэдзіў камандзір. *(М. Лынькоў)*

**VI.** 1. Хутка будуць называцца – знаю гэта – камуністамі ўсе людзі на зямлі. *(А. Куляшоў)* 2. Ночы зорныя летнія пралятаюць імгненна. *(І. Навуменка)* 3. Суровая вестка аб лёсе рабочай дэле-

гацыі маланкава абляцела ўвесь горад, дэпо, станцыю. *(М. Лынькоў)* 4. Скора гаворыцца, ды няскора робіцца. *(Прыказка)* 5. Паспешна, нібы з вялікага разгону, убег у бліндаж Чумак. *(Я. Кулала)* 6. З таго канца вуліцы, адкуль ішоў дзед Талаш, бяжыць ва ўвесь дух падлетак гадоў шаснаццаці. *(Я. Колас)* 7. Адным махам ён пераскочыў рэчку і аж да самага мястэчка не даў каню перадыхнуць. *(К. Чорны)* 8. Дзімка ішоў даволі борзда. *(П. Кавалёў)* 9. Іванка бег з усяе сілы. *(П. Кавалёў)*

**VII.** 1. Толік адышоў ад дзвярэй і патупаў следам за сябруком, які падаўся чамусьці не дамоў, а ў мястэчка. *(П. Кавалёў)* 2. Сяляне, зліўшыся ў агромную грамаду, паволі пацïснулі да пана каморніка. *(Я. Колас)* 3. Лапінка ўстаў з лавы і, сагнуўшыся ў сярэдзіне, паківаўся, як качар, да машыны. *(Я. Брыль)* 4. «Эх!..» – уздыхнуў Данілка і паплёўся ў хату. 5. Бабка паволі пасунулася ў кухню на сваю печ, адкуль хутка пачуліся нейкія мармытанні. *(Я. Колас)* 6. Дзед Талаш высунуўся з-за дуба, а высокі незнаёмы чалавек смела і рашуча закалыхаўся да тоўстага гузастага дуба. *(Я. Колас)* 7. З чамаданам у руках пацïснуўся ён [Лабановіч] на станцыю ў густым патоку людскога тлуму. *(Я. Колас)* 8. Астап пайшоў уперадзе групы людзей. *(М. Лынькоў)* 9. Толік падаўся следам. *(П. Кавалёў)* 10. Стары патупаў каля хаты, прыбіў штыкеціну, што вісела на адным цвіку, і пацягнуўся памалу ў лес пашукаць пару добрых яблынек на прышчэпы. *(К. Чорны)*

**Практыкаванне 45.** *Выбярыце з прыведзенных словы, якія найбольш падыходзяць па сэнсу да сказаў, і запішыце іх.*

*Вялікі, велічны, грандыёзны, неабсяжны.*

1. Непраходныя і ... лясы беларускія. 2. І, мінаючы перашкоды, ішла пэўным крокам ..., нябачаная ў свеце перабудова вёскі. 3. Слава планам ..., справам ... слава, па якіх людзі мераюць уласныя справы!

*Глядзець, прыглядацца, разглядаць.*

1. ... пачаў хлапец з усіх бакоў салдата. 2. Лена пачала ... да іх твараў. 3. ... мае вочы і вокала бачаць, як дзіва за дзівам ідзе ў нашы хаты.

*Моцна, звонка, аглушальна, прарэзліва.*

1. Зноў ... прагуў паравоз. 2. ... ударыў гром. 3. Слухаючы гэта, усе ... смяяліся. 4. ... над Прыпяццю сіняй вольная песня гучыць.



*Стары, старадаўні, незапомны, даўнішні.*

1. Ад каменя, як і раней, вілася па кручы вытаптаная з ... часоў сцяжынка. 2. ... рвецца, на новае спадзяецца. 3. Калісьці, у ... час, жыў ганарысты пан у нас. 4. Абознік пачаў расказваць ... прыгоду.

*Есці, сталавацца, карміцца, падсілкоўвацца.*

1. Дастала [маці] акрайчык хлеба, па скрылёчку сала, і яны ўзяліся .... 2. Тут кватарант і .... 3. ... не хацелася, хоць з учарашняга макавай расінкі не было ў роце. 4. Баброў не цікавіць рыба, якую ловіць выдра, а выдру не цікавяць расліны, якімі ... бабры.

*Сябар, таварыш, калега.*

1. Нават нашы адважныя кулямётчыкі і снайперы паважалі Булкіна, як роўнага, гаварылі з ім, як з баявым .... 2. Рады я: ... у нас не меней, чым у сонца залатых праменняў. 3. «Дазвольце пазнаёміцца: ваш ... і сусед – Лабановіч», – назваў сябе госць.

*Невясёлы, сумотны, маркотны, пануры.*

1. Каб развеяць гэты ... настрой, Лабановіч сабраўся паблукаць па верханскіх ваколіцах. 2. Але Васіль быў ..., яго вялікі клопат агарнуў. 3. Твары разведчыкаў былі ... і маўклівыя. 4. Думы ..., думы гаротныя, труціце быт мой сірочы.

*Цячы, працякаць, цурчаць, сачыцца.*

1. Вясна. ... вада пад снегам. 2. Бачыў: кроў змагароў, як жывая, ... з ранаў. 3. З-пад каменя ... крыніца. 4. Тут каламутны ручаёк, які летам перасыхаў. 5. На Бярозе, якая ... зусім недалёка ад нашай вёскі, мы, хлапчукі, прападалі амаль усё лета.

**Практыкаванне 46.** *Да выдзеленых слоў падбярыце антонімы.*

*Салодкі* яблык, сухі бераг, *шырокая* дарога, вялікі дзень, *белы* хлеб, хворы чалавек, *гаварыць* хутка, рана ўставаць, *многа* зрабіць, *светлая* паласа, цвёрдая зямля, *гарачая* вада, праўдзівая гісторыя, *тоўстая* вяроўка, цёплы дзень, *добра* ведаць, прыязджаць у горад.

**Практыкаванне 47.** *Пры дапамозе прыставак утварыце антонімы. Запішыце гэтыя пары слоў.*

Падземны (пераход), уліваць (ваду), адчыніць (дзверы), смачны (пірог), хмарнае (неба), звычайныя (абставіны), ідэйны (твор), рэлігійны (змест).

**Практыкаванне 48.** *Прачытайце сказы, знайдзіце словы гутарковага стылю.*

1. Мала цешылі яго і вечары, калі моладзь доўга снавала па вуліцы, галёкала, будзіла марозную цішыню смехам. *(І. Мележ)* 2. Мачыху разбірала злосць, яна не магла ўтрымацца: «Швэндаюцца, швэндаюцца – разявы!» *(І. Мележ)* 3. Было страшна, што адарвешся ад роднага седала ды і згубішся ў людзях. *(А. Асіпенка)* 4. Ларыон падыбаў побач. *(І. Мележ)* 5. Апоўдні камісія ўвалілася ў хату да Глушакоў. *(І. Мележ)* 6. Яўхім стрымаў рогат. *(І. Мележ)* 7. Васіль ухапіў момант – трэснуў Яўхіма пугаўём па галаве. *(І. Мележ)* 8. Тут пан Пшэбора і пан Глынка, вядомы гмінны кручкатвор. *(Я. Колас)* 9. Мачыха, павесялелая, амаль шчаслівая, глянула на Яўхіма з захапленнем: вось жа малайчына, зух! *(І. Мележ)*

**Практыкаванне 49.** *Выпішыце дыялектызмы, побач запішыце адпаведныя словы з літаратурнай мовы.*

1. Паставіўшы міску з расолам і чыгун з картофляй, маці прысела на лаўку. 2. Але Васіль амаль не звярнуў на ўсё гэта ўвагі – хадзіць па балоце даводзілася ўжо нямала, і ў пасталах і без пасталоў. 3. Бачыла добра яна [мачыха] толькі воз, які, нібы знарок, тырчаў перад вачыма і на якім завабліва чырванелі гаршкі, макатры, міскі. 4. Апейка нецярпліва думаў пра той блізкі час, калі і па іх лясных ды польных дарогах запыляць аўтамашыны. 5. Пакуль дзядзькі гаварылі з Міканорам, а жанкі растарэквалі каля прыпека, матка з Вольгай і Насцяй узяліся клапаціцца каля стала. 6. Першыя прыбылі на санях – Вольга са сваім чалавекам. 7. Ледзь Ганна, акружаная гоманам і тлумам, ступіла ў цяперашнюю сваю дамоўку, вінаватасць перад Васілём адразу прапала.

*(І. Мележ)*

**Практыкаванне 50.** *Падкрэсліце матываваныя словы.*

Абшыўка, аб'ява, агрэст, адпіска, бераг, бітон, блізкі, бойня, бярэзнік, вера, вятрак, вохра, вочнік, граната, груда, гумка, дворнік, дошка, жывіца.

**Практыкаванне 51.** *Падкрэсліце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.*

Жорсткія ўмовы, жалудовая шкарлупіна, келейныя справы, кіпучая дзейнасць, кіслы настрой, кленчыць грошай, клапатлівая



справа, ключ шыфра, крывавы пот, міністэрскае крэсла, крысо пінжака, беларуская кухня, людская плынь, высокая годнасць, шыпучае полымя, блакітная плынь, ружовая хустачка, заліваецца спевам, жывая думка, аўсяныя хвалі.

**Практыкаванне 52.** *Вызначце тыпы амонімаў. Пастаўце ў дужках адпаведную лічбу: 1 – лексічныя амонімы, 2 – амаформы, 3 – амафоны, 4 – амографы.*

Смачныя лісічкі – хітрыя лісічкі (); стройны стан – варожы стан (); хутчэй тры – тры чалавекі (); Лявон Шыла – вострае шыла (); асеннія палі – палі кветкі (); апёк руку – глыбокі апёк (); маладыя асіны – асіны рой (); салдаты брылі – саламяныя брылі (); шырокі гасцінец – смачны гасцінец (); балотны журавель – струхлелы журавель (); цікавая казка – жалезная каска (); жытняя мука – адна мука (); сасновы лес – лез уверх (); за тым дрэвам – затым ён сказаў (); родныя далі – далі слова (); баявыя гранаты – спелыя гранаты (); горкі лёс – слізкія горкі (); ён ведаў – узровень ведаў (); пчаліныя соты – соты ў спісе (); шырокая лава – расплаўленая лава ().

**Практыкаванне 53.** *Згрупуйце значэнні амонімаў і мнагазначных слоў.*

Ліст – а) орган паветранага жыўлення і газаабмену; б) пісьмо; в) тонкі плоскі кусок якога-небудзь матэрыялу; г) у значэнні зборнага назоўніка лісце.

Біць – а) стукаць; б) наносіць удары; в) званіць; г) наносіць паражэнне; д) страляць.

Дума – а) роздум, разважанне; б) жанр украінскай гістарычнай песні; в) назва органаў кіравання ў некаторых краінах.

Кампанія – а) група асоб; б) сукупнасць ваенных аперацый; в) перыяд знаходжання карабля ў плаванні; г) прамысловае або гандлёвае таварыства; д) мерапрыемствы для ажыццяўлення чарговай важнай задачы.

**Практыкаванне 54.** *Раскрыйце лексічнае значэнне іншамоўных слоў.*

Авантура, адысея, акуліст, апеляцыя, алгарытм, байкот, будуар, бурлеска, вакалізм, гастраномія, друшляк, дубэльт, дэлегавацаь, класіка, лозунг.

**Практыкаванне 55.** *Прачытайце і запомніце значэнне некаторых паронімаў. Складзіце з імі словазлучэнні.*

*Узор. Асабістае рашэнне, асабовая справа, асабовы займеннік, асаблівы падыход.*

Барвовы – бардовы (ярка-чырвоны, пурпуровы – цёмна-чырвоны, бардо); бульбоўнік, бульбянік – бульбянішча (лісце і сцябло бульбы – месца, дзе расла бульба); ганарлівы – ганарысты (поўны гордасці, усведамлення сваёй важнасці, перавагі – пагардлівы, пыхлівы, фанабэрысты) – ганаровы: 1) які карыстаецца пашанай, пачэсны, 2) які даецца, прысвойваецца за вялікія заслугі); дрымотны – дрымучы (паўсонны, санлівы – непраходны, густы (пра лес)); еднасць – яднанне (адзінства; суцэльнасць, непадзельнасць – цесная сувязь; згуртаванасць); прачыніць – прычыніць (прыадчыніць, не поўнасцю адчыніць – зачыніць няшчыльна або няпоўнасцю); духоўны – душэўны (звязаны з унутраным станам, псіхічнымі здольнасцямі чалавека, яго свядомасцю – шчыры, адкрыты, сардэчны; чулы, спагадлівы); падазронасць – падазрэнне (апасліва-насцярожаныя адносіны да каго-небудзь, чаго-небудзь; недаверлівасць – меркаванне пра вінаватасць каго-небудзь, пра несумленнасць паводзін ці намераў); ператвараць – пераўтвараць (рабіць з аднаго што-небудзь іншае, перарабляць; змяняць – змяняць што-небудзь карэнным чынам; перабудоўваць); запаведны – запаветны (які знаходзіцца пад аховай; недатыкальны – які асабліва цэніцца, самы дарагі; атрыманы ў спадчыну ад продкаў, старадаўні).

**Практыкаванне 56.** *Прачытайце словазлучэнні, назавіце паронімы, растлумачце розніцу ў іх значэнні. Вусна складзіце сказы з гэтымі словазлучэннямі.*

Абагуліць маёмасць – абагульніць назіранні; усебаковая абгрунтаванасць – даць абгрунтаванне; аб'ёмісты рукапіс – аб'ёмная разьба; адрывісты гук – адрывачныя звесткі – адрыўны каляндар; асвоіць прафесію – засвоіць правіла; асмуглыя рукі – асмужаныя дубровы – асмяглыя вусны; асобныя дрэўцы – асобыя прылады – асобы аддзел; гнуткі стан – гнутыя крэслы; пачуццё гумару – быць у гуморы; дараваць крыўду – дарыць на памяць; кваканне жаб – курынае квактанне (квахтанне); кветкавая клумба – квяцістая сукенка – квяцістая мова; крыўдлівы чалавек – крыўднае слова; неўжывальнае слова – неўжываная бялізна; суседняя вёска – суседскі хлапчук – суседскі агарод.



**Практыкаванне 57.** *Прачытайце сказы. Знайдзіце і выпраўце памылкі ва ўжыванні слоў.*

1. На жыццёвым шляху Лабановіча Якуб Колас паказаў той шлях, якім ішла передавая беларуская інтэлігенцыя ў рэвалюцыйную эпоху. 2. Разлзлаваны мужчына адштурхнуў газету ўбок. 3. Я хачу звярнуцца да бацькоў, у якіх ёсць дзеці. 4. Сцяпан перарастаў намнога ўсіх сваёй інтэлігентнасцю. 5. Мы ўсе былі абрушаны гэтый падзеяй. 6. У цэнтры Мінска нямала старажытных будынкаў, пабудаваных адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны. 7. Малы, плачучы, захінуўся у куток. 8. На ўсе пытанні доктар адказваў неазначальна. 9. Уладкаваўшыся, хлопец зачыніў вочы. 10. Кожны аспрэчваў неабходнасць сваёй будучай прафесіі. 11. Ваня і Пеця ўдвух разам спявалі адну песню. 12. Палявая дарога ішла праз поле, пасля паварочвала ў лес. 13. Гэта кніга вельмі цікаўная. 14. Раптам пачуўся адрыўны гук. 15. Пачаліся гульні адборнага тура чэмпіяната свету па футболу. 16. У маёй кантрольнай па фізіцы шмат дэфектаў. 17. Відаць, у бабулін агарод наведалася зграя зайцоў. 18. Надышоў час зрабіць вынікі сваёй працы. 19. Патоцкі канчае жыццё Бандароўны самагубствам. 20. Чалавек можа ажыццявіць свае здольнасці ў любой галіне.

**Практыкаванне 58.** *Назавіце амонімы, растлумачце іх значэнне.*

Цёмна-зялёны бор – бор і яго спалучэнні прымяняюцца ў ядзернай тэхніцы, у медыцыне і ў сельскай гаспадарцы; быць на віду – від птушак; катацца з горкі – горкі перац; пайшлі ўсёй кампаніяй – страхавая кампанія; пакласці на край стала – пакінуць родны край; распусціўся белы гарлачык – наліць малака ў гарлачык; гук паляўнічага рога – узяць быка за рогі; гандлёвая лаўка – сядзець на лаўцы; вырыць норку – каўнер з норкі; пад грыфам «Сакрэтна» – гняздо грыфа; простыя лікі – лікі святых на іконах; бярозавы ліст – ліст паперы; махавік трактара – назбіраць і насмажыць махавікоў; маленькая мушка – браць на мушку; нарваць кветак – палец нарваў і вельмі балеў; падасланць людзей у дапамогу – падаслаць кажух пад бок; сцежка зарасла падарожнікам – слухаць апавяданні падарожніка; палілася ў печы – палілася са страхі вада.

**Практыкаванне 59.** *Дакажыце, што ў першай групе запісаны словазлучэнні з амонімамі, а ў другой з мнагазначнымі словамі. Растлумачце розніцу паміж амонімамі і мнагазначнымі словамі.*

1. Жвавая ласка – поўны ласкі голас; лава вулкана – сесці на лаве; займаць адказную пасаду – апынуцца каля лесніковай пасады; заплесці касу – натачыць касу; гранатавы сок – гранатавы бранзалет; асвяціць ліхтаром пакой – асвяціць ваду ў царкве; акцыі прадпрыемства – дыпламатычная акцыя; партрэт у старадаўняй асадзе – асада крэпасці; працоўныя будні – будні дзень; завязаць вузлом – са скорасцю пяць вузлоў у гадзіну; давесці справу да канца – давесці сваю правату; выйсці з хаты на двор – царскі двор; паставіць каравул – крычаць «каравул»; спартыўныя клубы – клубы дыму; крытычны артыкул – крытычнае становішча; узяць курс на поўдзень – студэнты першага курса; перарабіць на свой лад – загадны лад дзеяслова; нешта сказаць – ён нешта хвалюецца.

2. Пайсці па хлеб – зарабляць на хлеб; трапіць у непрыемную гісторыю – вывучаць гісторыю; давесці хворага да ложка – давесці да слёз; доктар гістарычных навук – паклікаць доктара да хворага; зрабіць кар'еру – выбраць кар'еру вучонага; клетка для тыгра – тканіна ў клетку; крытычны ўзрост – крытычнае становішча; студэнты выпускнога курса – курс лекцый па стылістыцы; лад у хаце – зрабіць на свой лад; навязаць сабаку на ланцуг – горны ланцуг – ланцуг падзей; левая рука – левая фракцыя парламента; нумар дома – апошні нумар часопіса – эстрадны нумар.

**Практыкаванне 60.** *Прачытайце сказы. Назавіце сінонімы і вызначце іх функцыю (дазваляюць пазбегнуць аднастайнасці мовы, удакладняюць значэнне слоў, надаюць паведамленню экспрэсію, эмацыянальнасць).*

1. Сцепка паважна расчыніў чамадан і вынуў адтуль вялікую суконную хустку – гасцінец для маткі, потым вывалак боты на бацькаву нагу, а для братоў дастаў кусок матэрыі на кашулі. 2. Ён чуў, як штосьці гняло яго, згінала да зямлі, не давала дыхнуць на поўныя грудзі, як сэрца яго тлела, марнела, сціскалася, чэзла. 3. Гэта былі празрыстыя, чыстыя слязінкі. Не слязінкі суму, журбы, жалю, смутку, тугі, жалобы. Гэта былі слязінкі ўрачыстае радасці, весялосці, лагоднага. 4. Мне ішоў васемнаццаты год. Такі ўзрост, калі ўсё наперадзе здаецца светлым, шчаслівым, калі ў душы жыве вера. 5. Вялікія пісьменнікі ніколі не пераставалі настаўляць, каб на фальклоры мы вучыліся мове – самай простай, дасціпнай, не вычарпана багатай і вобразнай. 6. Была тая часіна, калі змрок толькі церушыўся з гары, спалоханы далёкай зарой на захадзе; калі сцінаалі ўвысі блакітныя пісягі сярод бурых аблокаў, якія нібы замерлі, паснулі. Зара цяпер стухла, зблекла, сплыла – пакінула іх уначы. Але хутка ўспыхне, зардзіцца горад. Тады яны зноў ажывуць, загарацца. 7. Падышоўшы пад акно, стаў спярша далікатна барабаніць па ім костачкамі зложанага ў кручок пальца, пасля – ляпаць усёй пяцярнёй, урэшце, пачаў пражыць кулаком у аконную раму. 8. Усхадзіўся, закружыў, завіхурыў, падзьмуў вецер, нагнаў хмар. 9. І зноў балоты, балоты, балоты – адвечная, непрыступная дрыгва, багна. Ступі сюды – уцягне, заблытае, засмокча. 10. Шчэрба і малады Малашанка бухнулі рогатам. Іван смяяўся стрымана. Качанок натужліва выціскаў з сябе дробны смяшок.

**Практыкаванне 61.** *Прачытайце сінанімічныя пары і рады. Вызначце адценні ў значэннях сінонімаў. Ці ўсе з прыведзеных сінонімаў і блізказначных слоў абсалютна ўзаемазамяняльныя?*

**I.** Напярэймы – насустрач; воля – свабода; селянін – земляроб; сілач – асілак; холад – мароз; надзвычай – вельмі; велізарны – агромністы; будзённы – звычайны; непакоіцца – хвалявацца; досвітак – світанне; зрэдку – дзе-нідзе і зрэдку – час ад часу (часам); раптам – нечакана; далікатны – ветлівы, уважлівы і далікатны – кволы, тонкі.

**II.** Гіпербала – пераелічэнне; фрагмент – урывак; ілюстрацыя – малюнак і ілюстрацыя – прыклад; іронія – усмешка; альянс – саюз; атэль – гасцініца; дэфект – загана; адэкватны – раўназначны; антытэза – проціпастаўленне; апагей – росквіт; апафеоз – праслаўленне, узвялічванне; асістэнт – памочнік; галкіпер – варатар; гарызонт – далягляд; нюанс – адценне; соус – падліва; турнэ – падарожжа; тэмп – хуткасць; шоу – відовішча.

**III.** Дарога – шлях – сцежка – шаша – тракт – гасцінец – аўтастрада – бальшак – аўтамагістраль; перамагчы – пакарыць – узяць верх – сагнуць – падавіць – скарыць – зваяваць – паставіць на калені; увішны – шустры – рухавы – жвавы – непаседлівы; настойлівы – нязломны – няўмольны – зацяты; наадрэз (адмовіц-

ца) – катэгарычна, рашуча; ісці – дыбаць – цягнуцца – рушыць – шыбаваць – валачыся – брысці – клыпаць – шнураваць – снаваць – пакіроўваца – перці – бадзяцца; блішчэць – ззяць – зіхацець – гарэць – іскрыцца – ірдзецца; айчына – радзіма – бацькаўшчына – родны край; воз – фурманка – падвода – калёсы – сані, абсурд – недарэчнасць – бязглуздзіца; аргумент – доказ – довад; баталія – бітва – бой; габарыт – памер – велічыня; візаві – твар у твар – адзін на адзін; галантны – ветлівы – далікатны – выхаваны; дамініраваць – пераважаць – панаваць; дэфект – загана – недахоп; імітацыя – перайманне – падробка; кампетэнтны – дасведчаны – вопытны; функцыя – роля – прызначэнне – задача.

**Практыкаванне 62.** *Прачытайце сказы. Назавіце антонімы.*

1. Вайсковы люд і люд цывільны вакзалы поўнілі сабой. *(Я. Колас)* 2. Паэзія – агонь і лёд. *(Я. Янішчыц)* 3. Сны чаргаваліся з явай, а ява са снамі. *(А. Куляшоў)* 4. Здавалася, што на ўсё жыццё хопіць у мяне расплачвацца: за зло – дабром, за забыццё – памяццю, за абыякавасць – увагай, за жорсткасць – ласкай. *(М. Танк)* 5. Сама сабой хачу я заставацца, знаходзіць вартае, а дрэннае губляць. *(С. Лобач)* 6. Тут я падаў, падымаўся, у агонь ішоў, каб жыць. *(П. Прыходзька)* 7. І я з хваляваннем узважваю ўдачы свае і няўдачы. Узважваю радасць і гора. У нейкім нервовым шале скачуць то ўніз то ўгору напераменку шалі. Тут поруч і гонар і горыч, сябры і ворагі поруч. *(П. Макаль)* 8. Была ты, дарожанька, непрыгляднаю, стала ты, дарожанька, ненаглядною. *(А. Русак)* 9. То мудрасць смяялася з тупасці, з уяўнай глыбакадумнасці, прастата – з фанабэрыі, дабрата – са злога недаверу; смяялася праўда з маны чорнай, светлае заўтра – з цёмнага ўчора. *(А. Вярцінскі)* 10. Ісціна, адвечная як свет: шчасце ходзіць толькі ў пары з горам. За надзеяй – боль зняверу ўслед. За пашанай – прыніжэння сорам. За святлом знаходкі – горыч страты. *(Н. Гілевіч)*

**Практыкаванне 63.** *Да выдзеленых слоў падбярыце антонімы і запішыце сказы.*

1. У прыродзе ўсё чаргуецца: *дзень* і ... , дождж і сонца, *зіма* і ... ! Як усё пераплялося: *старое* і …, *вялікае* і …, гераічнае і буднічнае! 3. *Шчасце* ходзіць толькі ў пары з ... . 4. Песня нібы звязвала *блізкія* і ... часы, *чужыя* і ... душы, душы *жывых* і ... .



**Практыкаванне 64.** *Запішыце антанімічныя словазлучэнні.*

*Узор. Цёплы вечар – халодная раніца.*

Любоў да сяброў, сённяшняя перамога, позна легчы, падняцца высока, цяжка знайсці, доўга працаваць, радасць ад сустрэчы, хутка бегчы, ціха плакаць.

## ФРАЗЕАЛОГІЯ

**Практыкаванне 1.** *Раскрыйце сэнс фразеалагізмаў:*

Кусаць сабе локці; біцца аб заклад; як май змаляваў; варона загуменная; манна нябесная; напрамілы бог; рассыпацца дробным макам; іскра божая; божая авечка; чортаў тузін; бяда вялікая; паскакаць дроздзіка; на роўную нагу; даваць гарбуз; мяняць пласцінку; як пугай па вадзе; як з крыжа зняты; малоць не падсяваючы; браць на цугундар; паўтары людскога.

**Практыкаванне 2.** *Падбярыце да фразеалагізмаў беларускія адпаведнікі.*

В кои то веки; черт его знает; у черта на куличках; олух царя небесного; из уст в уста; иметь зуб; два сапога пара; то и дело; набитый дурак; идти проторенным путем; набить оскомину; плыть по течению; пойти на хитрость; чин чином; десятому заказать; как мертвому припарка; запасть в душу; палец о палец не ударил; впасть в немилость.

**Практыкаванне 3.** *Вызначце стылістычную афарбоўку фразеалагізмаў. Пастаўце у дужках адпаведную лічбу: 1 – агульнаўжывальны, 2 – размоўны, 3 – кніжны.*

Выводзіць у людзі (); краевугольны камень (); валіць у адну кучу (); кануць у лету (); у адзін голас (); абламаць рогі (); не за гарамі (); наступаць на пяткі (); яблык разладу (); белая пляма (); ад чыстага сэрца (); кату па пяту (); зорка першай велічыні (); намыліць шыю (); стрымаць слова (); варон лавіць (); на увесь свет (); лёгкі на пад'ём ().

**Практыкаванне 4.** *Запішыце фразеалагізмы. Карыстаючыся слоўнікамі, растлумачце іх значэнні. Складзіце і запішыце сказы з гэтымі фразеалагізмамі.*

Абіваць парогі; адбою няма; адным словам; ваду таўчы ў

ступе; гуляць з агнём; даць слова; камар носа не падточыць; мець на ўвазе.

**Практыкаванне 5.** *Да наступных фразеалагізмаў падбярыце сінанімічныя словы.*

Адным махам; акунёў вудзіць; вешаць галаву; вушы натапырыць; задзіраць нос; на скорую руку; непачаты край; у момант вока; хоць гаць гаці; як гром з яснага неба.

**Практыкаванне 6.** *Складзіце сказы з наступнымі фразеалагізмамі.*

Адзін на адзін; далёка пайсці; гнуць спіну; мераць на свой аршын; іграць у адну дудку; на сёмым небе; трымаць вуха востра; прайсці агонь і воду; правая рука; як на далоні.

**Практыкаванне 7.** *Прачытайце ўрывак і вызначце яго стыль. Выпішыце фразеалагізмы і ўстойлівыя параўнанні, вусна растлумачце іх значэнне.*

З другога канца вуліцы ціха, як дзень, ішла высокая фігура. Пазнаўшы ў гэтай фігуры Васіля Падбярознага, маладога станавітага дзецюка, ляснік схамянуўся і хацеў ісці. Цяпер ляснік надта хацеў бы, каб і Васіль быў замешаны ў гэтую справу з капцамі. О, тады ён сухім не выйшаў бы. Не хадзіў бы ён такім козырам па вуліцы, не шаптаўся б з Ганнаю цэлыя ночы па цёмных куточках, дый яна не хілілася б да яго, як гібкая трава бярозка да жыцінкі. Васіль таксама не вельмі паважаў лесніка. Ужо даўно ляжаў між імі чорны цень узаемнай нянавісці. І не раз ужо стыкаліся яны, але покі што справа далей жорсткіх слоў яшчэ не ішла.

– Добры вечар, Ганна! – сказаў, падышоўшы, хлопец.

– Добры вечар! Сядай, Васіль, – сказала Ганна і чуць пасунулася, каб даць яму месца блізка каля сябе.

Васіль сеў. Злосны і зняважаны ляснік сядзеў здалёк.

– А! Добры вечар! – звярнуўся да яго Васіль. Ён сумысля зрабіў выгляд, што толькі цяпер заўважыў яго.

– Калі гэта, Васіль, вочы перасталі служыць табе? – спытаў ляснік.

– А з таго часу, як ты пачаў насіць сурдут з касцянымі гузікамі і боты з бліщчастымі халявамі, – адказаў Васіль.

– А ты дык надта паразумнеў, як скінуў лапці і ўзлажыў бацькавы боты. Мусіць мае касцяныя гузікі табе вочы колюць?



– А колюць, браце, бо я заўважыў, калі хто ў сабе нічога не мае, дык той на сябе цацкі чапляе. Ляснік устаў, пусціўшы між вушэй Васілёвы словы, і сказаў:

– Дабранач, Ганна!

*(Я. Колас)*

**Практыкаванне 8.** *Прачытайце фразеалагізмы і сінанімічныя ім словы і выразы. Вусна складзіце з імі сказы і вызначце, дзе найбольш ярка выказана думка.*

Кляваць носам – драмаць; губы надзьмуць – пакрыўдзіцца; зарубіць на носе – запомніць; рабіць выгляд – прыкідвацца; разводзіць рукамі – здзіўляцца; душа ў душу – дружна; у пух і прах – зусім, поўнасцю; ні свет ні зара – рана; увайсці ў (чыёсьці) становішча – паспачуваць; хадзіць за хворым – даглядаць хворага; ведаць усе хады і выхады – добра арыентавацца (на пэўным месцы, у пэўных абставінах); пусціць у ход – прымяніць; адыходзіць у нябыт – знікаць з ужывання, перастаць існаваць; расходзяцца (разыходзяцца) дарогі (шляхі) – спыняюцца сувязі, зносіны; вады ў рот набраць – маўчаць; у свіныя галасы – позна, пад самы канец; збіцца з панталыку – збянтэжыцца або памыліцца; ведаць як свае пяць пальцаў – вельмі добра; стрэляны верабей – вельмі вопытны, спрактыкаваны чалавек.

**Практыкаванне 9.** *Прачытайце сказы, растлумачце сэнс (значэнне) выдзеленых фразеалагізмаў і перафраз.*

1. У гэты час аб Салаўю *ні слуху ні духу* не было. 2. Вайсковец *даў добры вечар*, падышоў да жанчыны... 3. «Маладым і падказваць трэба», – не згадзілася цёця Ядзя, якая заўсёды ў сям'і *іграла першую скрыпку*. 4. Яўхім хадзіў *як сам не свой* па вёсцы. Работа, за якую б ён ні браўся, *валілася* ў яго *з рук*. 5. Працавалі *не шкадуючы сіл*. 6. Відаць *усё як на далоні*. 7. Набралі хлопцы грыбоў *колькі ўлезе* і накіраваліся дадому. 8. Да вёскі было *рукою падаць*. 9. Дзень выдаўся *як на заказ*. 10. Месца пад падлогай, кожную дошку самой падлогі Міколка ведаў *як свае пяць пальцаў*. 11. На станцыі было светла ад ліхтароў, а тут цемра *хоць вока выкалі*. 12. Усё зробім *як мага* лепш. 13. Маці *як у воду глядзела*. 14. Дождж лье *як з вядра*. 15. Мы беглі *што моцы было*. 16. Сядзіць хлопец *ні жывы ні мёртвы*. 17. Стафанковіч сціх *як мыла з’еўшы*.

**Практыкаванне 10.** *Прачытайце пары фразеалагізмаў з супрацьлеглым значэннем (антонімаў). З усімі ўстойлівымі выразамі складзіце сказы.*

Хоць вока выкалі – хоць іголкі збірай; ні свет ні зара – на шапачны разбор; рукой пацаць – блізкі свет; хоць да раны прыкладвай – да трох не гавары; як нажом па сэрцы – як мыла з'еўшы; як карова языком злізала – як гром з яснага неба; душа ў душу – як кот з сабакам; пайсці на свой хлеб – сядзець на карку; куры не клююць – як кот наплакаў.

**Практыкаванне 11.** *Знайдзіце памылкі ва ўжыванні фразеалагізмаў.*

1. Хлопцаў адразу як кабыла языком злізала. 2. Дзімка цэлы дзень мазоліў зрок суседкам, якія ўселіся на лаўцы. 3. Да справы трэба падыходзіць з сэрцам. 4. Гэты ўсё жыццё трымае камень у кішэні. 5. Зрабіў ты плот звярам на смех.

## СТЫЛІСТЫКА

**Практыкаванне 1.** *Прачытайце тэкст, вызначце стыль і тып тэксту. Абгрунтуйце сваю думку.*

У той мясціне беларускай сталіцы, якую мінчане называюць паркам Купалы, на кожным кроку, у кожным куточку жыве паэзія. У першай пралесцы і сціплай незабудцы. У водары ліпавага цвету і ў жоўтым кляновым лісце на дарожцы. У камянях, абмытых летнімі дажджамі, і елках, цёпла ўхутаных белымі зімовымі хусткамі. Дзівоснаю купальскаю песняй звіняць пырскі фантана, ля якога прыгажуні-дзяўчаты загадваюць пра будучае замужжа і пускаюць на ваду вянкі. А ў цэнтры парку, на ў здзірванелым узвышшы, узняўся помнік. Стаіць мудры чалавек, за плячамі якога вялікае жыццё. Унізе, ля падножжа помніка, струменіць крынічка і цвіце, цвіце ўлетку і ўзімку папараць-кветка.

Імем Янкі Купалы названы інстытуты і тэатр, школы і калгасы, вуліцы і бібліятэкі. На яго радзіме, у Вязынцы, створаны Купалаўскі мемарыял. Есць помнікі ў Радашковічах і на магіле паэта. Але самы велічны мемарыял з літаратурным музеем песняра ў Мінску, непадалёк ад доміка на беразе Свіслачы, дзе жыў некалі паэт, дзе і цяпер, здаецца, чуваць яго крокі...

*(«Работніца і сялянка»)*



**Практыкаванне 2.** *Спішыце тэкст. Падкрэсліце мнагазначныя словы і растлумачце іх значэнні.*

Веснавая цёплая ноч толькі што апранула зямлю і раскідала свае таемныя чары, поўныя крыху смутнага хараства. Першыя зоры ўжо замігцелі то там, то сям у бяздонным небе, а з-за лесу залатым пажарам узнімаўся кругам блішчасты месяц. Дробныя белыя хмаркі ўсцілалі яму дарожку сваімі лёгкімі празрыстымі тканямі і расступаліся перад ім, скупануўшы ў яго бляску свае танкарунныя кудры. Пахла зямля, багата акропленая расою. У сяле чулася гаворка і песні. Вясёлыя маладыя гукі смела ўразаліся ў цішыню ночы і бойка плылі на рэчку; тут яны ўпыняліся ў высокі бераг, адскоквалі назад і беглі ўздоўж яго па дузе лукі і заміралі ўжо за луганом. У лагчыне над Нёманам дружна і заложна кракталі жабы. Было нешта смутнае і жалобнае ў гэтай простай і аднатоннай іх песні, што чапала душу ціхім смуткам. Сяло заціхала; зрэдку па вуліцы брыла адзінокая фігура селяніна, што дзесь запазніўся. Толькі дзяўчаты яшчэ не спалі і спявалі на прызбах песні.

*(Я. Колас)*

**Практыкаванне 3.** *Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Выкарыстайце словы, якія найбольш падыходзяць паводле сэнсу.*

**I.** (Бясстрашныя, стойкія, мужныя) разведчыкі ноччу (прайсці, пранікнуць, прабрацца) у (размяшчэнне, стан) ворага і даведаліся пра сілы (вораг, праціўнік). А (раніца, на світанне) нашы войскі пачалі (атака, штурм) варожых умацаванняў. (Загрымець, застраляць) гарматы, (рушыць, пайсці) танкі, (устаць, падняцца) пяхота. У гэты дзень (воіны, салдаты) (здабыць, атрымаць) яшчэ адну перамогу.

**II.** Чалавек... Ён прыходзіць з (будаўніцтва, будоўля, пабудова, будаванне), перапоўненай (шум, грукат, гром, рокат) машын, і пільна ўслухоўваецца ў (шапаценне, шолах, шастанне) апаўшага лісця. Ён валіць велізарныя сосны і клапатліва папраўляе галінкі клёна, які расце ў двары. Ён выводзіць сцены шматпавярховага (дом, хата, будынак) і старанна будуе сыну домік з пяску. Ён засявае пшаніцай неабсяжныя (палеткі, палі, нівы) і высаджвае кветкі пад акном у невялікіх клумбах. А бенгальскі агонь электразваркі не перашкодзіць яму выпусціць познім вечарам матылька, які заляцеў на (святло, свячэнне, ззянне). Такі наш чалавек.

*(«Літаратура і мастацтва»)*

**Практыкаванне 4.** *Прачытайце тэкст – запіс гутаркі. Вызначце яго стылёвыя і моўныя рысы.*

– Здароў.

– Здароў, здароў. Ну праходзь далей на хату, сядай.

– Дзякуй. Ну як жа ты тутака маешся, як пажываеш?

– А вот памаленьку, дзень да вечара. А я цябе вельмі даўно бачыла, ой, колькі часу прайшло шмат, бедавала, кажу: чаму гэта ты да нас не прыходзіш, думаю, можа чаго зазлавалася?

– А чаго ж я буду на цябе злаваць, ды і за што? Я ўвесь гэты час хварэла, так скруціла мяне, што думала ўжо не выжыву, памру, але памаленьку, памаленьку, глядзіш – і ачуняла.

– А што ж з табой такое зрабілася?

– А бо, дай жа рады: суседка папрасіла памагчы ёй перабраць бульбу ў склепе, расчыніла дзверы, і акенца таксама было адчынена, а мяне так скразняком прахапіла, што ўсе жылачкі скруціла ў целе, жывога месца на мне не было.

– А я нават нічога гэтага не знала, хоць бы выправіла Ніну да цябе, а то сама ж я не дайду, сама знаеш, ногі баляць. Раней, бывала, дык усюды даляту, дайду першая, а цяпер ног не магу перасунуць, вось дык дажылася. Ну, а цяпер як ты сябе адчуваеш?

– Ды ўжо ж балазе, дзякуй богу, трохі лепей.

*(Н. С. Мажэйка, А. Я. Супрун. Частотны слоўнік беларускай мовы)*

**Практыкаванне 5.** *Прачытайце тэкст. Вызначце стыль тэксту і яго моўныя прыкметы.*

– Да першай імперыялістычнай я ўжо ў Гамерыцы пабываў, – спрабаваў завязаць гаворку дзед. – Думаў, штосьці добрае знайду, ажно і там з усіх бакоў такіх скуб – лепш не ўспамінаць. У той Гамерыцы, за акіянам, і мой Міхась пабываў, і Мацвей, і Янук – браты, што маладзейшыя за мяне. А што нажылі? Ліха ўсякае. Чэзлі, гібелі хлопцы... А Мацвей? Ад хваробы сканаў, ад цяжкай работы... На чужой, далёкай старане...

*(«Звязда»)*

**Практыкаванне 6.** *Прачытайце тэкст. Выявіце сродкі гутарковай мовы. Ці правамерна яны ўжыты ў тэксце?*

Таіса Міхайлаўна <...> чакала мужа з партсходу. Згатавала на вячэру «жаранку» – так тут называюць бульбу з салам, смажаную не на газавай пліце, а ў грубцы, «у духу», дзе бульба набывае асаблівую духмянасць і смак, набрынялыя тукам тонкія скрыгалі не прыгараюць да чыгунка, а толькі падрумяньваюцца. Іван вельмі любіць такія «прыгаркі», выскрабае чыгунок, як малы.

<...> Тася вырасла на Случчыне, у заможнай сям'і, і ёй здавалася, што любоў такая да бульбы з салам – ад беднасці, ад доўгага галадання ў вайну і пасля яе. Але калі добра пабагацелі і мелі з чаго згатаваць любыя стравы, калі хапала, як кажуць, і смажанага, і паранага – «жаранка» па-ранейшаму заставалася сямейным ласункам. На свініну ў любым іншым выглядзе дзеці глядзець не хацелі, асабліва перабіруха Валя...

Але страва гэта не павінна перастаяць, перасмажыцца. Усе ў доме па асаблівым паху чулі, калі яе сама трэба падаваць на стол. Во тады гэта смаката!

*(І. Шамякін)*

**Практыкаванне 7.** *Прачытайце урывак з рэцэнзіі на мастацкі твор. Сродкамі якога стылю, на думку рэцэнзента, злоўжывае пісьменнік у дыялогу?*

Аўтар задавальняецца часам прыблізным апісаннем. Прыблізнасць яшчэ ў большай меры характэрна для дыялога.

«– Праўда, – сказаў я. – Давайце заканчвайце свой псіхалагічны аналіз. Можа гэта будзе не так страшна зараз... Ці лепей так... Выкажыце сваю думку наконт маіх калег...

– Я пра іх думала ўскосна, толькі ў сувязі з вамі.

– Я, значыць, здолеў завалодаць вашымі думкамі...»

Адразу кідаецца ў вочы нейкі штучны лад мовы: стыль гаворкі не размоўны, не характэрны для маладых людзей, якія пазнаёміліся і сімпатызуюць адно аднаму, знікае неабходная для дыялога індывідуалізацыя.

*(А. Жук)*

**Практыкаванне 8.** *Прачытайце тэкст. Якую асаблівасць гутарковай мовы паказвае пісьменнік?*

Ці то ад старасці, ці то ад другой якой прычыны, ён [Алесь Манцівода] заўсёды забываў тое, аб чым пачынаў гаварыць, і ўжо не стараўся прыдумаць забытую думку, а пачынаў зразу ж новую, кончыўшы забытую фразу на сярэдзіне словам «гэтае». Так, як і Міхалка, ён не думаючы гаварыў усё тое, што лезла на язык, і за гэтым гаворка ў абодвух іх выходзіла складна, але ні к сялу ні к гораду.

– Эй, мужчыны! – загукаў Алесь Манцівода на ўсю вуліцу. – Калі ж праднaлог гэтае?!

– Якое гэтае?

– Калі, значыць, праднaлог у горад па гэтае?

– Калі павязем?

– Але.

*(К. Чорны)*

**Практыкаванне 9.** *Выпішыце з тлумачальнага слоўніка 5 слоў, якія ўжываюцца ў гутарковай мове. Складзіце з імі сказы.*

**Практыкаванне 10.** *Прачытайце тэкст. Для чаго пісьменнік ужывае выдзеленыя словы? Звярніце ўвагу на спосаб іх уключэння ў аўтарскую мову.*

Калі гаварыць шчыра, дык мы, акрамя сваёй вёскі, нідзе і не былі, нічога не бачылі. Праўда, Мікітаў Уладзік неяк ездзіў з бацькам у раённы цэнтр на базар. Але ж хіба гэта сапраўдны горад! Кажа, тыя ж драўляныя хаты з падслепаватымі акенцамі і тая ж *галапузая басота*. Адзінае, бадай, што зрабіла на яго незвычайнае ўражанне і зацікавіла, – гэта тое, што людзі там ходзяць не проста па вуліцы, па пяску, а па брукаваным «*пратавары*».

*(Б. Сачанка)*

**Практыкаванне 11.** *Прачытайце тэксты, вызначце іх асноўныя стылёвыя рысы. Якімі моўнымі сродкамі выражаны гэтыя рысы?*

**I.** – Дык ты, бабка, не ведаеш, чаго мы на свеце жывем?

– Не, панічок, не ведаю! Каб вы запыталіся ў дрэва, чаму яно расце, дык хіба ж бы яно вам адказала? Так і я не магу адказаць вам. Жывём, пакі жывецца, бо жывы ў зямлю не палезеш, а прыйдзе смерць, тады пахаваюць.

*(Я. Колас)*

**II.** Жыццё вечнае ў тым сэнсе, што ў працэсе бясконца доўгага існавання матэрыі яно бясконца многа разоў і ў бясконца многіх светах узнікала і знікала, як і самі гэтыя светы. Гэта ж правільна і адносна бясконцага ў часе і прасторы развіцця матэрыі ў будучым.

*(А. Бадакоў)*



**Практыкаванне 12.** *Прачытайце тэкст. Вызначце, якімі моўнымі сродкамі выражаецца адцягненасць і абагульненасць навуковага выкладу.*

Грамадская свядомасць характарызуе духоўнае жыццё грамадства, яго ідэі, тэорыі, погляды, традыцыі а таксама звычкі і настроі людзей. Фарміруецца на аснове дыялектычнага ўзаемадзеяння ўсіх бакоў грамадскага жыцця, сярод якіх вытворчасць і ўзнаўленне сапраўднага жыцця з'яўляюцца вызначальнымі. Яе формы: ідэалогія, правасвядомасць, мараль, рэлігія, навука, мастацтва, філасофія; адрозніваюцца прадметамі, спосабам адлюстравання рэчаіснасці, сацыяльнымі патрэбамі, што іх спарадзілі, а таксама функцыямі ў грамадстве.

*(БелСЭ)*

**Практыкаванне 13.** *Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Пра якую галіну творчай дзейнасці гаворыцца ў тэксце?*

Малюнкі Філіповіча на тэмы беларускіх казак цікавыя і па сваёй графічнай мове. Добра чытальны контур азначаны мастаком упэўненымі лініямі, якія акаймоўваюць каляровыя плямы. Умоўная, але вельмі выразная «геаграфія» ліній стварае часам нейкія казачна-фантастычныя формы, міфічна-былінны, загадкавы настрой, які яшчэ больш узмацняецца яскравымі суадносінамі гарманічных колераў, што спалучаюцца паміж сабой у межах гэтага контуру. Кожны асобны колер лакалізуецца і звязваецца з астатнім толькі агульнай гармоніяй каларыстычнай гамы. Як і ў ранніх жывапісных працах Філіповіча, у яго ілюстрацыях да беларускіх народных казак пераважаюць кантрастныя яркія колеры.

*(В. Шматаў)*

**Практыкаванне 14.** *Падбярыце і запішыце невялікія тэксты (4–5 сказаў) з падручнікаў па фізіцы, геаграфіі, гісторыі і на іх аснове вызначце асаблівасці навуковага стылю, абумоўленыя канкрэтнымі галінамі яго выкарыстання.*

**Практыкаванне 15.** *Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Якімі моўнымі сродкамі выражаецца прадпісальны характар выкладу?*

БУДЗЬЦЕ АСЦЯРОЖНЫЯ НА ЛЁДЗЕ!

Са з'яўленнем лядовага покрыва на вадаёмах забараняецца

катанне на каньках, лыжах і санках. Тонкі лёд не вытрымае цяжару чалавека.

Катацца на каньках дазваляецца толькі на спецыяльна абсталяваных катках, а на вадаёмах – пры таўшчыні лёду не менш як 10–12 см. Масавае катанне дазваляецца пры таўшчыні лёду не менш як 25 см. Небяспечна хадзіць і катацца на лёдзе па адным. Пры руху па лёдзе трэба быць асабліва асцярожным у месцах, дзе ў вадаём упадаюць раўчукі, выходзяць крыніцы, уліваюцца сцёкавыя воды прамысловых прадпрыемстваў.

*(«Звязда»)*

**Практыкаванне 16.** *У якім стылі ўжываюцца выразы* даводжу да ведама; мы, ніжэйпадпісаныя; дагаворныя бакі; даверчая грамата? *Складзіце сказы з гэтымі спалучэннямі слоў.*

**Практыкаванне 17.** *Напішыце пратакол сходу.*

**Практыкаванне 18.** *Прачытайце тэкст. Пакажыце, як тэма тэксту абумоўлівае яго лексіку і фразеалогію.*

Лазняк! – устрывожана кліча Папоў. – Скора-скора сюды!

Я ціхенька выпаўзаю са сховішча на пляцоўку. Папоў напружана горбіцца за прыцэлам, і, наблізіўшыся да яго, я бачу тое, дзеля чаго ён паклікаў мяне.

У пехацінскай траншэі немцы. Сям-там бачна, як высунецца і схаваецца ствол вінтоўкі, часам блісне на сонцы каска. Відаць, яны там ідуць некуды, мабыць, акружаюць нас. Але гэта не ўсё. Удалечыні, на аб'ездзе міннага поля, зноў паказваюцца аўтамабілі, пярэднія, валюхаючы бартамі, ужо з'язджаюць цераз канаву з дарогі. Папоў пільна пазірае на іх і, павольна пакручваючы махавічкі, вядзе стваолом за пярэдняй машынай.

*(В. Быкаў)*

**Практыкаванне 19.** *Вызначце стыль тэксту. З якой мэтай выкарыстоўваецца медыцынская тэрміналогія? Чаму аўтар называе не ўсе, а толькі асобныя медыцынскія інструменты?*

У перадаперацыйнай было многа людзей у белых халатах, з ссунутымі на падбародкі маскамі. <...>

Ён пачаў разглядаць інструменты ў шкляных шафах, будку для стэрылізацыі з адчыненым акенцам у аперацыйную. Падумаў, як нялёгка вывучыць назвы і прызначэнне ўсіх гэтых інструментаў – іх тысячы.

Апараты... Апараты... Розныя. З экранамі… Без экранаў. З правадамі. Са шлангамі. Кірыла ўспомніў Ярашавы «лекцыі» па хірургіі, фразу, якую той аднойчы кінуў яўна з гонарам: «Мая aперацыйная цяпер – што цэх». Сапраўды, што цэх.

Вунь тая зялёная скрынка з лейкай, шкляным балонам, сігнальнымі лямпачкамі, ці не той гэта апошні цуд, па які Яраш ездзіў у Кіеў, – апарат «сэрца–лёгкія»?

<...> Шыковічу чамусьці больш за ўсё кінуўся ў вочы і запомніўся маленькі апарацік, які надзелі Зосі на левае вуха. (Пасля ён даведаўся, што гэта аксігемометр – прыбор, які вызначае насычанасць крыві кіслародам.)

*(І. Шамякін)*

**Практыкаванне 20.** *Выпішыце па 3–4 сказы з тэксту публіцыстычнага, афіцыйнага і мастацкага стыляў на тэму «Лес». Знайдзіце агульнае і адметнае ў сказах розных стыляў.*

**Практыкаванне 21.** *Прачытайце тэкст. Выявіце яго характэрныя стылёва-моўныя рысы.*

У народзе абавязкова павінна жыць памяць пра гераічнае мінулае. Абавязкова! У фальклоры яна замацоўваецца ў гераічных песнях і казках, паданнях і легендах – інакш сказаць, у гераічным эпасе. Уласна, з жыццёвай неабходнасці гэты эпас і ўзнікаў. Значэнне гэтага добра разумелі і Купала, і Колас, і Багдановіч, і Гарэцкі, і Гарун, і Ластоўскі, і іншыя выдатныя дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння. Разумелі, што без уласнай дзяржаўна-палітычнай гісторыі, без высокага і слаўнага ў гэтай гісторыі, народная памяць аслабне, бо яна сілкуецца не толькі трагедыямі, але і гeроікай. Яркі прыклад, які пацвярджае слушнасць сказанага, – памяць аб Вялікай Айчыннай: колькі ў ёй гераічнага, якія высокія парывы чалавечага і народнага духу засведчаны, якія подзвігі ўвекавечаны!

Невыпадкова ворагі нацыянальнага адраджэння Беларусі – як царысты-вялікадзяржаўнікі, так і польскія шавіністы – стараліся забіць і заглушыць у памяці нашага народа менавіта гэта: найбольш гераічныя моманты яго гісторыі, якія сведчаць пра вышыню яго духу, пра яго жыццяздольнасць і сілу волі, пра яго

непераможнае імкненне да свабоды і незалежнасці. А найбольш тое, што ў яго некалі была свая дзяржаўнасць, хоць і называлася дзяржава іншым, не сучасным імем.

*(Н. Гілевіч)*

**Практыкаванне 22.** *Прачытайце тэкст. Вызначце, да якога стылю ён належыць. Абгрунтуйце вывады.*

Вельмі шкада, што ў наш час амаль на нішто зведзены старадаўні звычай зважаць на прыклад, пазіцыю народных аўтарытэтаў, думкі патрыярхаў сумлення, якія значылі калісьці не менш (калі не больш), чым высокія афіцыйныя аўтарытэты. Ерэтычныя пропаведзі Льва Талстога былі калісьці важней за артадаксальныя прамовы старшыні Дзяржаўнай думы Маклакова. Прынята думаць, што значныя аўтарытэты засталіся ў мінулым, выведіся ў наш час. Але гэта не так. У народных нетрах не пераводзяцца светлыя галовы і сумленныя сэрцы, трэба толькі ўмець іх бачыць. Галоснасць апошніх гадоў, прэса і тэлебачанне, дыскусіі на З'ездзе народных дэпутатаў і ў Вярхоўным Савеце выявілі побач з традыцыйным кансерватызмам і глыбокую, прагрэсіўную думку сумленных і разумных людзей, чые аргументы, на жаль, не заўсёды знаходзяць прызнанне большасці. Цяжка сказаць, у чым тут справа: у элементарнай чыноўніцкай абмежаванасці ці звычаі мінулых гадоў, калі кожны аўтарытэт толькі тады што-небудзь значыў, калі яго вылучалі ўлады. Абавязковаю ўмовай такога вылучэння і падтрымкі з'яўлялася безумоўнае згодніцтва з уладамі. Менавіта гэтае згодніцтва ўрэшце і пляжыла рэпутацыю не аднаго разумнага і нават сумленнага мастака таго часу.

*(В. Быкаў)*

**Практыкаванне 23.** *Прачытайце тэкст. Вызначце моўныя сродкі, якімі выражаецца характэрная рыса публіцыстычнага стылю – непасрэдная звернутасць аўтара да масавага адрасата. Што дасягаецца такой формай выкладу?*

У памяці кожнага з нас шануецца імя чалавека, а то і многіх дарагіх нам людзей. Гэта і нашы настаўнікі, і сябры, і наогул усе, каму ты ўдзячны за шчырасць, за падтрымку, увагу – адным словам, за ўсё тое, што пазначана вышэйшай цаной: дабро. На маёй Случчыне і ў трэцім, і ў чацвёртым пакаленнях жыве



ўдзячнасць доктару Шкодзе, які ўсё жыццё лячыў людзей. Слава пра яго ішла па ўсім наваколлі. А гэта быў нават не доктар і не прафесар, як часам называлі яго, а ўсяго сельскі фельчар. З тых жа часоў успамінаюць і вясёлага музыку Антона, які іграў вяселлі. Напэўна, у Антона была шчаслівая рука, бо ўсе, каму ён іграў, жылі шчасліва. За ўвесь век не разышлася ніводная пара. Як гэта важна, які гэта вялікі талент – усё жыццё рабіць дабро людзям, з асяроддзя якіх ты выйшаў і паміж якіх і з якімі жывеш і працуеш.

*(В. Вітка)*

**Практыкаванне 24.** *Прачытайце тэкст. Вызначце стыль тэксту. Назавіце галоўныя прыкметы гэтага стылю.*

З чаго пачынаецца чалавек як асоба? З усведамлення, што вось тут ты нарадзіўся, што гэта твой дом, твая вуліца, твая вёска… Каб тут лепей жылося, трэба працаваць. Не «змагацца», а проста браць у рукі рыдлёўку і рабіць грады, а падлогу – мыць, і калі будаваць, дык ладна і моцна. Чужога не браць, а са свайго – падзяліся з суседам і сябрам. І спявай на той мове, на якой маці табе калыханку над калыскай спявала. Не адракайся ад таго, што зрабіў для сябе і для цябе твой бацька. Рабі ўсё, каб меў права ганарыцца зробленым. Не захопленым, не ўкрадзеным, не заваяваным, а – зробленым, здабытым, адгабляваным тваімі рукамі. Тваім розумам. Тваёй любоўю.

Помніце, як Максім Багдановіч ад нашага імя пасылае на здраднікаў, на тых, хто выракаецца ўсяго роднага, ваякаў і дае ім наказ:

Біце ў сэрцы іх – біце мячамі, Не давайце чужынцамі быць! Хай пачуюць, як сэрца начамі Аб радзімай старонцы баліць…

Я многа пражыў на свеце і магу цвёрда сказаць, што з гэтага болю аб роднай старонцы, з імкнення зрабіць для яе нешта добрае і пачынаецца чалавечая свядомасць. І нацыянальная свядомасць таксама.

*(З. Азгур)*

**Практыкаванне 25.** *Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Якімі сродкамі і прыёмамі дасягаюцца вобразнасць і дакладнасць?*

Ён выйшаў са свайго дома, які стаіць побач – за дрэвамі. Можа ён паспеў ужо схадзіць да Свіслачы, задумліва і маўкліва

павітацца з ёю, сваёю даўняю суседкаю... А зараз нетаропкаю хадою, такою звыклаю і знаёмаю для тых, хто меў шчасце некалі сустракаць яго, кіруецца ў бок Ленінскага праспекта. Там – людзі, а ён жа заўсёды хацеў быць ды і быў з людзьмі.

Пругкі вецер, якога сёння няма, але які абавязкова шумеў тады, заламаў каўнер лёгкага паліто, па-летняму ўскінутага нааапшкі. Крысо, узварушанае ўсё тым жа спыненым назаўсёды павевам, б'ецца, блытаецца недзе ля сукаватага кія, прадбачліва ўзятага хай сабе і ў недалёкую, штодзённую дарогу.

Янка Купала, бронзавы, няспешна, задумліва ідзе па сваей зямлі.

*(Я. Сіпакоў)*

**Практыкаванне 26.** *Напішыце артыкул на тэму аховы прыроды і памнажэння яе багаццяў.*

**Практыкаванне 27.** *Прачытайце ўрыўкі з тэкстаў. Вызначце, да якіх стыляў адносіцца кожны з іх. Абгрунтуйце сваю думку.*

**I.** Усё таямнічае, незразумелае і загадкавае першабытны чалавек не толькі адухаўляў, але і абагаўляў. Адно з першых месцаў у пантэоне старажытных людзей належала агню, без якога жыццё было б проста немагчымым. Міфы шматлікіх народаў пераканаўча сведчаць, што агонь быў спрадвеку звязаны не толькі з жытлом, але і з'яўляўся сімвалам роду, племені і жыцця. Гісторыя не ведае ніводнага народа, які на пэўным этапе свайго развіцця не надзяляў бы агонь звыш прыроднымі ўласцівасцямі. Вытокі абагаўлення агню губляюцца дзесьці ў прадонні каменнага веку.

*(Паводле С. Цярохіна)*

**II.** Не магу без хвалявання глядзець на жнівеньскія лугі. Шмат у іх неразгаданай і прыціхлай задуменнасці і красы. Буйныя травы скошаны. На месцы шырокіх пракосаў па ўсёй пойме ракі, наколькі можна ахапіць вокам, узняліся стагі духмянага сенца. І кожны па-свойму адметны. Вось гэты высокі, зграбны, быццам тая статуэтка з бронзы на зялёным аксаміце лугу стаіць. А гэты чамусьці нагадвае стройную маладую дзяўчыну з капрызна падціснутымі вуснамі...

*(Паводле Р. Ігнаценкі)*

**III.** Спяшаемся на аўтобус. Каб не спазніцца. Да сына хочам. Пераведаць надумалі. Адзін наш у Гародні, а другі аж у Мінску. Стары казаў: у нядзельку трэба нядзелькаваць, рукам спачыну знайсці. А я разважыла: не, што там нядзелькаваць! Ехаць – не працаваць. Дацягнемся да аўтобуса, а там у Слонім, а там і ў Мінск. Не на сабе ж цягнуць, не на кані пхнуцца дзень і ноч, дзень і ноч. Ды нагатавалі сяго-таго, ды сабралі таго-сяго, ды склалі, дый на вас во натрапілі, дай божачка вам здароўя, што дапамаглі. А сын наш студэнтаў вучыць. Жыве, як той казаў, дай божа ўсім добрым людзям! То чужыя кніжкі чытаў, а гэта сам свае напісаў, людзі іх чытаюць, студэнты вучаць яго кніжкі. Дык завязём. І жонка ёсць, і двое дзетак гадуе – усё гэта ім. І ягады, і з грады агурочкі, і з галінкі памідоры, і кропу, і паляндвіцу, і часныку, і... Як ні ёсць – свае дзеці. Трэба ж. Трэба дапамагчы дзецям. І без нашага абышлося б, дык хочацца ж дапамагчы...

*(Паводле Ф. Янкоўскага)*

**IV.** Дзяржава павінна забяспечыць структурнасць, планамернасць і змест чалавечага жыцця і развіцця канкрэтнай асобы. Дзяржава выступае ў якасці сацыяльнага інстытута, у якім чалавек засвойвае нормы паводзін і дзейнасці, усведамляе свае правы і абавязкі ў адносінах да іншых людзей, уносіць свой уклад у сацыяльнае, эканамічнае, палітычнае, маральнае развіццё грамадства.

Любая дзяржава моцная законамі, агульнымі правіламі, мэтамі, стратэгіяй развіцця, пэўнай ідэалогіяй. Без ідэалогіі дзяржаўнае развіццё ўяўляе сабой спантанны, а падчас і хаатычны працэс. Адсутнасць прапісанай і прадстаўленай пазіцыі краіны не можа не адбіцца на пазіцыі асобы, яе ідэалах, перакананнях, каштоўнасцях, на яе адносінах да ўласнай дзяржавы.

*(«Звязда»)*

**V.** Зрабіце для сябе, маладыя людзі, абавязковым правілам: кожны дзень, хоць на некалькі мінут, вазьміце ў рукі зборнік народных песень або казак, прыказак або загадак, пагартайце, пачытайце ўважліва, удумліва, нават даўно знаёмае вам, нават тое, што нібыта ведаеце на памяць, прачытайце яшчэ раз – вы абавязкова адкрыеце для сябе нешта вельмі істотнае і каштоўнае – як у сэнсе разумення народнага жыцця, душы народа, так і ў сэнсе разумення сакрэтаў мастацкага майстэрства. Вы напэўна знойдзеце слова, якога вам не хапала, вы ўбачыце, як народ шукае адзіна неабходнае слова, як паварочвае яго, каб яно засвяцілася новымі гранямі і адценнямі сэнсу...

*(Паводле Ф. Янкоўскага)*

**Практыкаванне 28.** *Вызначце тыпы тэкстаў.*

**I.** Адзенне ансамбля ў тыя першыя пасляваенныя гады не вызначалася багаццем тканін, адмысловасцю формы. Але добра помню, што першае, што мяне ўразіла, – гэта прастата і строгасць харыстаў, што выйшлі на сцэну, выстраіліся ў шарэнгі: ва ўсім адчувалася пачуццё меры, густу.

А вось і ён – сам Шырма. Невысокага росту, па-сялянску шыракаплечы, але па-інтэлігенцку падцягнуты, у чорным фраку, у белай манішцы; галава ўжо абсыпана інеем, і такая ж белая, надзвычай акуратная барадка. Было ў яго постаці, у яго паставе, у адзенні нешта сапраўды класічнае ў самым высокім разуменні гэтага слова. Помню, яшчэ да музыкі я падумаў: «Божа, дык гэта ж чарадзей!»

*(Паводле І. Шамякіна)*

**II.** Так сталася, што Сімяон Полацкі вымушаны быў пакінуць родны горад. Асабістае знаёмства з царом Аляксеем Міхайлавічам дало магчымасць адукаванаму палачаніну пасяліцца ў Маскве.

Сімяон Полацкі ахвотна карыстаўся запрашэннем з'яўляцца ў царскі палац з любога ўрачыстага выпадку. Прыходзіў, зразумела, не з пустымі рукамі. Калі, напрыклад, нарадзіўся царэвіч Сімяон, паэт паднёс усцешанаму бацьку свайго цёзкі нешта нябачанае дагэтуль ні царом, ні прыдворнымі: віншаванні мелі форму крыжа, васьміканцовае зоркі, ромба, сэрца, стужкі серпанціну. Пазней Сімяона Полацкага прызначылі выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей.

*(Паводле У. Арлова)*

**III.** Хто калі лічыў, хто калі задумаўся, колькі ж на душу насельніцтва, на душу кожнага з нас прыпадае кветак, матылёў, дрэў, птушак, крынічак? Усяго гэтага мы, занятыя вечным клопатам, часцей за ўсё не заўважаем: яно для нас такое ж звыклае і будзёнае, як і паветра, гэты цуд прыроды, якім мы безуважна, раўнадушна дыхаем.

Так, мы звыкла ўсім гэтым карыстаемся. Часам нават забываем, што прырода – не толькі для нас адных, хоць чалавек і з'яўляецца самаю лепшаю аздобаю любога краявіду. Што, беручы ў яе ўсё, чым яна так шчодра з намі дзеліцца, трэба думаць пра будучыню і абавязкова трэба пакідаць у ёй месца і той жа рэчцы, і таму ж буслу, і той жа травінцы, і таму ж мурашу. Пакідаць усё, што ім трэба. Бо ўсе мы на гэтай зямлі суседзі: рэчка і бусел, дрэва і травінка, кветка і пчала, мураш і чалавек. Усе мы зямляне. Бо зямля ў нас адна, яна агульная. І мы маем радасць суіснаваць на ёй. Жыць у дружбе і ва ўзаемнай павазе. Таму, беручы ў прыроды, мы абавязаны захоўваць яе багацці і павялічваць іх. Беручы аддаваць.

*(Паводле Я. Сіпакова)*

**Практыкаванне 29.** *Назавіце спосабы і сродкі сувязі сказаў у тэкстах.*

1. За вёскай, на старой бярозе, здаўна вяліся буслы. З выраю яны прылятталі звычайна ў красавіку. Птушкі рабілі некалькі кругоў над вёскай, садзіліся на бярозу, рамантавалі гняздо. У гэтым гняздзе яны пазней выводзілі і гадавалі буслянят. *(І. Сяляўка)* 2. Абзац выконвае ў тэксце важную кампазіцыйную ролю. Звычайна абзац афармляе пачатак новай думкі і ў той жа час сігналізуе пра заканчэнне папярэдняй. Ён выконвае таксама экспрэсіўна-выдзяляльную функцыю. Калі аўтару трэба падкрэсліць які-небудзь сказ, ён робіць гэта пры дапамозе абзаца. *(Л. Сямешка)* 3. Паміранне мовы такая ж натуральная з'ява, як і нараджэнне яе. Быць можа, што і мая мова некалі памрэ. Як памру я сам, чалавек. І я аніяк не баюся натуральнай смерці. А от калі насільна паміраць – страшна. *(Я. Скрыган)* 4. Расце ў лесе дуб, магутны, з парэпанай карой на моцных галінах-лапах. Карані яго перапляліся паміж сабой, выпілі безліч зямных сокаў. І паспрабуй яго крануць з месца. Пярун страсяне яго за чуб, абсмаліць. Дуб ўсё роўна стаіць. А вось клён – фанабэрысты, рознакаляровы, як паўлін. Усё азіраецца навокал, усё прыхарошваецца. Лісце яго, як зоркі, падае лёгка і імкліва ў парудзелыя травы. *(Паводле С. Лобач)* 5. Вёска размясцілася на стромкім беразе. Хаты ляпіліся на самым яго грэбні. Калі глядзець на вёску з ракі, то побач з абрысамі дрэў выразна вымалёўваюцца стрэхі з комінамі. Стрэхі ідуць роўненька, яны высокія і ў асноўным шыферныя. А вось коміны на кожнай тырчалі розныя. Адзін комін, шырокі і прысадзісты, вылазіў на страху. Ён быў важны, як і яго гаспадар. Другі вытыркаўся доўгай і тонкай жалезнай трубой. *(А. Кажадуб)*

1. У знакі дацца.
2. На кукішках сядзець.
3. Свой розум мець.
4. Як мае быць.
5. На схіле веку.

**ТЭСТ 9**

**Частка А**

**А1.** *Адзначце фразеалагізмы:*
1) выбраць месца;
2) здаровы зуб;
3) жывога месца не засталося;
4) мець зуб;
5) мець сапраўдных сяброў.

**А2.** *Адзначце фразеалагізмы, значэнне якіх растлумачана правільна:*
1) *мазоліць язык* – гаварыць па справе, дарэчы;
2) *сваім мазалём* – набываць непасрэднай цяжкай працай;
3) *адстаўной казы барабаншчык* – чалавек, з якім лічацца, які займае высокае становішча;
4) *акунёў вудзіць* – драмаць седзячы;
5) *асёл маляваны* – разумны чалавек.

**А3.** *Адзначце фразеалагізмы, да якіх правільна падабраны словы-сінонімы:*
1) матаць на вус – запамінаць;
2) сем карабоў (нагаварыць) – мала;
3) вольная птушка – нетутэйшы;
4) за адным махам – адначасова;
5) расхлёбваць кашу – заблытваць.

**А4.** *Адзначце, да якіх рускіх фразеалагізмаў правільна падабраны беларускія адпаведнікі:*
1) знать как облупленного – ведай, каток, свой куток;
2) зуб на зуб не попадает – цыганскі пот праймае;
3) и нашим и вашим – крышыць буракі на абодва бакі;
4) как корова языком слизала – як ад быка малака;
5) лаптем щи хлебать – лапцем па вадзе пляснуць.

**А5.** *Адзначце фразеалагізмы, якія суадносяцца з прыслоўем:*
1) на адным дыханні;
2) душа не прымае;
3) данайскія дарункі;
4) на шапачны разбор;
5) стаць на крыло.



**А6.** *Адзначце, з якой часцінай мовы суадносіцца фразеалагізм у сказе:*

І *божай міласцю* паэт араў дзірван, касіў траву ды з лебяды варыў абед.
1) Назоўнікам;
2) прыметнікам;
3) займеннікам;
4) лічэбнікам;
5) дзеясловам.

**А7.** *Адзначце сказы, у якіх фразеалагізмы суадносяцца з назоўнікам:*
1) Я чую, што ў мяне няма *грунту пад нагамі*, бо я не намеціў сабе пэўнага плана работы.
2) Ён не з такіх, каб дзяліцца славай, каб *падстаўляць плячо іншаму*.
3) Я хуценька падзякаваў за *хлеб-соль* і пачаў аглядаць новую хату.
4) Высокая, *шырокай косці*, постаць армейца здалася знаёмай.
5) Маўчу, бо не магу згадзіцца, што Алік быў *падсадкай качкай*.

**А8.** *Адзначце, якім членам сказа з'яўляецца фразеалагізм у наступным сказе:*

*Злыя языкі гавораць*, што вы заляцаецеся да мае жонкі.
1) Дзейнікам;
2) выказнікам;
3) дапаўненнем;
4) азначэннем;
5) акалічнасцю.

**А9.** *Адзначце сказы, у якіх фразеалагізмы з'яўляюцца выказнікамі:*
1) Букрэй *прыняў пад увагу* меркаванні дзеда Талаша і адобрыў яго праграму на сённяшні дзень.
2) Цяпер яны *мясілі гразь* разам – коннік і конь.
3) Сцяпан *колькі было сілы* імчаўся да става, на хаду зрываючы з сябе адзежу.
4) Людзям стала весялей жыць, і ўся гаспадарка адразу *пайшла ўгору*.
5) Ну, мамуся, як ні прыемна мне ў родным доме, *пад тваім крылом*, але мушу ехаць.

**А10.** *Устанавіце адпаведнасць паміж рускімі фразеалагізмамі і іх беларускімі адпаведнікамі. Адзначце нумар правільнага адказу.*

А. Что за беда.
Б. Распускать нюни.
В. Два сапога пара.
Г. Чуть свет.

1. На досвітку.
2. Абое рабое.
3. Румы папускаць.
4. Толькі й бяды.
5. Што будзе, тое будзе.

1) А3Б1В2Г5; 3) А1Б2В3Г4; 5) А4Б2В1Г3.
2) А4Б3В2Г1; 4) А2Б4В1Г5;

**Частка В**

**В1.** *Закончыце фармулёўку.*

Навука пра ўстойлівыя спалучэнні слоў – гэта …

**В2.** *Запішыце слова, якое прапушчана ў фразеалагізме* як корова ... злізала.

**В3.** *Знайдзіце сярод прыведзеных спалучэнняў слоў фразеалагізм і запішыце яго:*

1) ласкавы голас; 4) голас сумлення;
2) голас ветру; 5) голас у голас.
3) прабаваць голас;

**В4.** *Запішыце ў пачатковай форме, з якой часцінай мовы суадносіцца фразеалагізм* разводзіць сырасць.

**В5.** *Выберыце і запішыце фразеалагізм, які суадносіцца з дзеясловам:*

1) як вокам згледзець; 4) згушчаць фарбы;
2) не па гадах; 5) ні рыба ні мяса.
3) за царом гарохам;

**В6.** *Запішыце ў пачатковай форме, якім членам сказа з'яўляецца фразеалагізм у сказе:*

Усё пакінуць след павінна, бо, як пачаўся *белы свет*, прамень, пясчынка і расінка нязменна пакідаюць след.

**В7.** *Выберыце і запішыце фразеалагізм, які з'яўляецца дапаўненнем у сказе.*

1) Можа, хто і ўбачыць, што ён не чалавек *на пасылках*, а гаспадар, які сам сабе выбірае шлях.
2) Крэмавая кашулька вылазіла і знізу, давялося шво падабраць і счапіць *на жывую нітку*.
3) З вокнаў кабінета ўпраўляючага трэстам Мікалая Фёдаравіча галоўны ўчастак будоўлі *як на далоні*.
4) Грамадскія арганізацыі павінны зрабіць усё, каб ніводзін выпускнік школы не застаўся без *пуцёўкі ў жыццё*.
5) Няважна, што ў гэтай падрыхтоўцы *першая скрыпка* належала не яму і многае рабілася насуперак яго волі.

**В8.** *Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннем. Адказ запішыце.*

А. Вадзіць за нос. В. Высоўваць нос.
Б. Вешаць нос. Г. Вярнуць нос.



1. Вельмі важнічаць, зазнавацца, фанабэрыцца.
2. Уводзіць у зман, ашукваць.
3. Выходзіць, паказвацца.
4. Даходзіць да моцнага адчаю, маркоціцца.
5. Грэбаваць, пагарджаць, адмаўляцца.

**В9.** *Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх сінтаксічнай роляй у сказе. Адказ запішыце.*

А. Скажу вам, жэўжыкі, па сакрэту, што я *да смерці* не люблю лянівых і непаваротлівых людзей.
Б. О не, дзетка мая, Стась *не з таго дзесятка*, каб забыцца пра бацьку.
В. Драздовіч сабраўся ўслед за землякамі, якія ехалі ў пошуках працы, *кавалка хлеба*.
Г. Круглая, ружовашчокая, *лёгкая на нагу*, яна, здаецца, хадзіла па зямлі, як само здароўе.

1. Дапаўненне. 3. Акалічнасць. 5. Дзейнік.
2. Выказнік. 4. Азначэнне.

**В10.** *Устанавіце адпаведнасць паміж рускімі фразеалагізмамі і іх беларускімі адпаведнікамі. Адказ запішыце.*

А. Как изваяние. 1. Ладу не дабраць.
Б. Потерять расположение. 2. Як зачараваны.
В. Во времена оны. 3. Ласку страціць.
Г. Ума не приложить. 4. Як за мурам.
5. Не за нашым Богам.

## ТЭСТ 10

**Частка А**

**А1.** *Вызначце стыль тэксту:*

У гісторыі Беларусі шмат трагічных старонак. Праносіліся над нашым краем вогненныя віхуры вайны, праходзілі заваёўнікі. Заставаліся зруйнаваныя гарады, спаленыя кнігі. Знішчаўся здабытак, які стагоддзі па крупіцах збіраў народ. Што застаецца? А застаецца памяць. Дрэва жыве, пакуль яго сілкуюць карані. Народ жа жыве, пакуль памятае сваю гісторыю. І таму зноў паўстаюць з руін і попелу гарады, адраджаецца роднае слова, зноў бяруцца за пэндзлі мастакі. Так было заўжды. Такая стваральная сіла ўдзячнай памяці аб тых, хто на працягу стагоддзяў сваёй працай і подзвігамі стварыў сённяшні дзень нашай зямлі.

1) публіцыстычны; 3) гутарковы; 5) мастацкі.
2) навуковы; 4) афіцыйна-дзелавы;

**А2.** *Адзначце прыметы афіцыйна-дзелавога стылю:*
1) вобразнасць; 4) канкрэтнасць;
2) непасрэднасць маўлення; 5) эмацыянальнасць.
3) строгая аб'ектыўнасць;

**А3.** *Адзначце стыль, у якім ўжываюцца наступныя словы (словазлучэнні):* парламент, дэбаты, сацыяльны статус, сімпозіўмы*:*
1) публіцыстычны; 4) гутарковы;
2) навуковы; 5) мастацкі.
3) афіцыйна-дзелавы;

**А4.** *Адзначце жанры публіцыстычнага стылю:*
1) пісьмо; 4) манаграфія;
2) нататка; 5) апавяданне.
3) інтэрв'ю;

**А5.** *Адзначце, якія кампаненты складаюць схему тэксту-апавядання:*
1) уступ (завязка); 4) агульнае ўяўленне аб прадмеце;
2) вывады; 5) развязка.
3) асноўная частка;

**А6.** *Адзначце стыль і тып тэксту.*

Вялікі чорны кот ляніва прайшоўся па двары, ускочыў на плот, а потым перамахнуў на страху пограба. Прылёг на цёплай страсе і жоўтымі вачамі ўставіўся ў копку саломы. Часам вушы ката паволі варушыліся.

Раптам кот натапырыў вушы, кончык хваста нервова затоpгаўся. Чорны драпежнік пругка прыўзняўся на лапах, спружыніста падаўся наперад і імкліва абрынуўся на ахвяру. Але раптам кот спыніўся, гідліва чмыхнуў і абыякава адвярнуўся. А звярок, які вылез з саломы, не схаваўся назад, а пачаў хутка абгрызаць нейкі карэньчык. Кот прысаромлена адышоўся. Невялічкая малеча ні на кога не звяртала ўвагі. Гэта была не шэрая мышка, а лясная землярыйка. Кот сканфузіўся, бо не адразу распазнаў незнаёмага звярка.
1) мастацкі, разважанне; 4) навуковы, апісанне;
2) публіцыстычны, апавяданне; 5) гутарковы, апавяданне.
3) мастацкі, апавяданне;



**А7.** *Адзначце, якія сродкі тэкставай сувязі выкарыстаны ў тэксце.*

Вёска Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне добра вядома ў нашай рэспубліцы. Яе ваколіцы – гэта прыгожыя куткі Панямоння, чароўныя і маляўнічыя мясціны. Яны з высокім майстэрствам і любоўю апеты ў многіх творах Якуба Коласа. Тут будучы паэт адчуў веліч і прыгажосць прыроды, навучыўся разумець яе мову.

З Мікалаеўшчынай звязаны многія важныя падзеі ў жыцці народнага песняра. Тут да пачатку першай сусветнай вайны пэўны час жыў і напісаў шэраг твораў Якуб Колас. Тут адбылася першая сустрэча Якуба Коласа і Янкі Купалы. Таму тут пазней быў створаны філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа.
1) Пабочныя словы і словазлучэнні; 4) злучнікі;
2) сінанімічныя словы і словазлучэнні; 5) няпоўныя сказы.
3) займеннікі і прыслоўі;

**А8.** *Адзначце, у якім парадку трэба размясціць сказы, каб атрымаўся звязны тэкст. Адзначце нумар правільнага адказу.*

1. Таму і назву такую мае. 2. Яго вытоптваюць нагамі, нявечаць коламі, а ён не толькі не аддаляецца ад дарог, а наадварот сам цягнецца да іх, а значыць, да чалавека. 3. Трыпутнік непераборлівы, непатрабавальны. 4. Але часцей за ўсё ўзбоч сцежак і палявых дарог. 5. І сустрэць яго можна ўсюды.
1) 1, 3, 4, 2, 5; 3) 3, 5, 4, 1, 2; 5) 4, 2, 3, 1, 2.
2) 5, 2, 1, 4, 3; 4) 3, 2, 4, 1, 5;

**А9.** *Адзначце нумар сказа, які выражае асноўную думку тэксту.*

Калі людзі былі непісьменнымі, яны не ведалі, адкуль бярэцца дзень, і лічылі, што трэба па яго ехаць, і ездзілі па чарзе. Заражэ селянін каня ноччу і едзе на ўсход, пакуль не стане днець. Убачыць зару – паварочвае назад у сваю вёску, спыняецца ля першай хаты і пытае: «Добры дзень я вам прывёз?» Пачуе ў адказ: «Добры!» Пазней людзі зразумелі, што дзень сам прыйдзе, і перасталі ездзіць па яго, але прывітанне засталося.
1) Пры сустрэчы са знаёмым чалавекам кажуць «Добры дзень!»
2) У вёсцы ёсць звычай вітацца з усімі, хто сустрэўся.
3) На прывітанне ветлівы чалавек заўсёды адказвае прывітаннем.
4) Розныя народы вітаюцца па-рознаму.
5) Вітацца – даўні традыцыйны звычай.

**А10.** *Адзначце нумар сказа, які з'яўляецца тэзісам (пачаткам) да тэксту.*

Пры дапамозе тэхнічных сродкаў жывапісу мы бачым навакольны свет. Творы, выкананыя мастакамі на плоскасці, перадаюць аб'ёмную форму прадметаў, паветраную і лінейную перспектыву, ідэю. Разуменне законаў жывапісу дае людзям магчымасць найглыбей уявіць своеасаблівасці пабудовы прадметаў, суадносін зместу і формы, развівае здольнасць аналізаваць. Выяўленчая жывапісная адукаванасць служыць і сродкам грамадскага выхавання.

1) Сэнс і сутнасць жывапіснага майстэрства заключаецца не толькі ў імкненні мастака адлюстраваць багацце прыроды, але і выявіць асноўныя рысы, уласцівыя асобным з'явам.
2) Па змесце жывапіс падзяляецца на бытавы, партрэтны, гісторыка-батальны, пейзаж, нацюрморт.
3) Кожны з жанраў мае сваю гісторыю развіцця, характэрныя асаблівасці.
4) Жывапіс – адзін з самых распаўсюджаных відаў выяўленчага мастацтва.
5) Мастак неабавязкова піша пра тое, што бачыць.

**Частка В**

**В1.** *Закончыце фармулёўку.*

Паведамленне (напісанае, надрукаванае або выказанае вусна), якое характарызуецца сэнсавай і структурнай завершанасцю і інтанацыйнай аформленасцю, – гэта …

**В2.** *Вызначце стыль тэксту. Адказ запішыце.*

Алфавіт – сукупнасць графічных знакаў (літар) пэўнай сістэмы пісьма, размешчаных у замацаваным парадку. Алфавіт уяўляе пазнейшую стадыю развіцця графікі, якая надышла ўслед за піктаграфічным, ідэаграфічным, а таксама складовым пісьмом. Асноўныя патрабаванні да кожнага алфавіта – гэта дакладная колькасць адпаведных літар і асноўных гукаў мовы, прастата малюнкаў літар і іх зручнасць для напісання, выразнае адрозненне адной літары ад другой пры захаванні адзінства іх графічнай будовы.

**В3.** *Знайдзіце і запішыце жанр навуковага стылю:*

1) дыпломная праца; 3) нарыс; 5) загад.
2) трыялет; 4) эсэ;



**В4.** *Вызначце стыль тэксту і запішыце толькі тое слова (у пачатковай форме), якое не характэрна для дадзенага стылю.*

Пачыналася восень. Яшчэ горача свяціла сонца, зусім палетняму дрыжала сіняватая смуга над пыльнай дарогай. Буяла яшчэ на лугавінах зялёная атава, ля хат хваліліся сваей прыгажосцю жоўтыя вяргіні і астры. Але ўсеўладная восень неадступна цікавала за гэтымі апошнімі праявамі летняга жыцця. Яна ўжо заслала суцэльным залацістым абрусам палі збажыны, пазалаціла шаты разгалістых прыдарожных бяроз, а іанасферу напаіла той празрыстасцю і чысцінёй, якая бывае толькі цёплай лагоднай восенню.

**В5.** *Вызначце тып тэксту. Адказ запішыце.*

Гэтая веска стаяла на ўзвышшы ўздоўж берага імклівай і паўнаводнай ракі. Паміж вёскай і ракой рассцілалася сенажаць. З вясны да зімы на ёй буйна цвілі кветкі: браткі, лотаць, іскаркі, пералёт... Але адна аранжава-жоўтая кветка, што зацвітала кожны раз у сярэдзіне чэрвеня, чамусьці не мела назвы.

Аднойчы ў гэтых мясцінах расхадзіўся страшэнны лівень, з берагоў выйшла рака. Квітнеючай сенажаці было не пазнаць. Вада вырвала расліны з карэннем. Калі непагадзь скончылася, усе ўбачылі: толькі адна безназоўная кветка чамусьці была некранутай. На шурпатай сцяблíне зелянела доўгае зубчастае лісце, а вялікія кветкі горда ўсміхаліся сонцу. Вяскоўцы не маглі надзівіцца моцы і ўпартасці гэтай кветкі. Назвалі яе купальніцай.

**В6.** *Вызначце і запішыце, які кампанент прапушчаны ў схеме тэксту-разважання:*

Тэзіс – ... – вывад.

**В7.** *Вызначце спосаб сувязі сказаў у тэксце. Адказ запішыце.*

З ягаднай сям'і суніцы паспяваюць першыя: яны высыпаюць у канцы чэрвеня. Аднак не трэба па іх спяшацца, як па грыбы, на раннім досвітку. Бяруць суніцы, калі сплыве туман і прападзе раса, інакш яны памнуцца ў кошыку. Збіраць суніцы свята, а не работа. Яны самі просяцца ў далоню, але ўмеюць і спрытна хавацца ў траве ці пад сваімі зубчатымі трыліснікамі. Таму, убачыўшы першую ягадку, адразу пакланіся, а тады шукай яе сяброўак. Суніцы не толькі смаката, яны таксама і лекі. Шмат якія хваробы, дзякуючы ім, адольвалі ў даўніну нашы дзяды і прадзеды. Лепшым сведчаннем таму народная прымаўка: суніцы спажываеш – хваробы з сэрца выганяеш.

**В8.** *Напішыце, які стыль выкарыстоўваецца ў сферы бытавых зносін для абмену думкамі і паведамлення. Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

**В9.** *Напішыце, для якога стылю характэрна ўжыванне тэрмінаў, адназначных слоў, ускладненых і складаных сінтаксічных канструкцый. Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

## ТЭСТ 11

### Частка А

**А1.** *Вызначыце стыль тэксту.*

Фразеалагізмы – гатовыя спалучэнні слоў з непадзельным значэннем. Паводле значэння фразеалагізмы часта адпавядаюць асобным словам, словазлучэнням. У сказе фразеалагізм з'яўляецца адным членам сказа. Фразеалагізмы – сродак вобразнасці і выразнасці ў мове. Яны характарызуюць асобу ці прадмет станоўча або адмоўна. Фразеалагізмы, як і словы, не ствараюцца ў размове, а выкарыстоўваюцца як гатовыя моўныя адзінкі. Іх трэба запамінаць для таго, каб сцісла, трапна, вобразна і ярка перадаць думкі, выказаць пачуцці. Фразеалагізмы – самародкі, самацветы роднай мовы, залацінкі народнай мудрасці.

1) публіцыстычны; 3) гутарковы; 5) мастацкі.
2) навуковы; 4) афіцыйна-дзелавы;

**А2.** *Адзначце прыметы гутарковага стылю:*

1) натуральнасць маўлення; 4) сцісласць; 5) непасрэднасць.
2) строгая лагічнасць; 3) дакладнасць;

**А3.** *Адзначце стыль, у якім ужываюцца наступныя словы (словазлучэнні):* арфаэпія, сінус, вуглярод, малекула*:*

1) публіцыстычны; 3) афіцыйна-дзелавы; 5) мастацкі.
2) навуковы; 4) гутарковы;

**А4.** *Адзначце жанры мастацкага стылю:*

1) санет; 3) аповесць; 5) камедыя.
2) рэпартаж; 4) рэцэнзія;

**А5.** *Адзначце, якія кампаненты складаюць схему тэксту-разважання:*

1) выразныя прыметы прадмета; 4) доказы;
2) тэзіс; 5) вывады.
3) кульмінацыя;



**А6.** *Адзначце стыль і тып тэксту.*

Гэты домік стаіць у засені ліп, клёнаў, дубоў і кашлатых соснаў на тэрыторыі Акадэміі навук у Мінску. Тут пасля Вялікай Айчыннай вайны жыў і працаваў народны паэт Беларусі Якуб Колас. Пры жыцці паэта ў доме заўсёды было шмат людзей: прыходзілі пісьменнікі, настаўнікі, сябры. Цяпер у доме музей. Яго экспазіцыя знаёміць з жыццёвым і творчым шляхам народнага песняра Беларусі. Тут выстаўлены дакументы, фатаграфіі, карціны мастакоў, творы самога пісьменніка, яго асабістыя рэчы. Супрацоўнікі музея выступаюць з лекцыямі і гутаркамі перад студэнтамі і вучнямі, актыўна прапагандуюць творчую спадчыну слаўнага песняра.

1) мастацкі, апісанне; 4) навуковы, апісанне;
2) публіцыстычны, апавяданне; 5) публіцыстычны, апісанне.
3) мастацкі, апавяданне;

**А7.** *Адзначце, якія сродкі тэкставай сувязі выкарыстаны ў тэксце.*

Жабу не любяць. Гавораць, што яна шкодная, што ад яе на руках бародаўкі. Усё гэта няпраўда. Жаба сапраўды выдзяляе праз скуру белаватую вадкасць, але ніякіх бародавак ад гэтай вадкасці не бывае. Проста такім спосабам жаба ратуецца ад ворагаў. Затое карысць жаба прыносіць велізарную. Цэлы дзень яна сядзіць дзе-небудзь у ціхім куточку, а калі сцямнее – выпаўзае на паляванне. І ўсю ноч, як дазорны, ходзіць яна паміж градак, выкідваючы свой доўгі клейкі язык і хапаючы якое-небудзь насякомае. І колькі ж яна за ноч усякіх шкодных насякомых знішчыць – не злічыць! Вось чаму жаба для людзей вялікі сябар. Праўда, яна не вельмі прыгожая, але ж сяброў любяць не за прыгажосць.

1) паўтор слоў і словазлучэнняў; 4) злучнікі;
2) няпоўныя сказы; 5) аднатыпныя канструкцыі.
3) займеннікі і прыслоўі;

**А8.** *Адзначце, у якім парадку трэба размясціць сказы, каб атрымаўся звязны тэкст. Адзначце нумар правільнага адказу.*

1. Самыя раннія баравікі сустракаюцца ў дубровах. 2. Усе яны родныя браты. 3. Баравік – знакаміты грыбны ўладар, яго яшчэ называюць белым грыбам. 4. У бярозавых гаях растуць каржакаватыя баравікі з карычневымі капялюшыкамі, а баравікі-чорнагаловікі гаспадараць у сасновым лесе. 5. Капялюшыкі і ножкі іх пафарбаваны ў светлы колер.

1) 1, 3, 4, 2, 5; 3) 3, 2, 4, 1, 5; 5) 4, 2, 3, 1, 2.
2) 5, 2, 1, 4, 3; 4) 3, 1, 5, 4, 2;

**А9.** *Адзначце нумар сказа, які выражае асноўную думку тэксту.*

Кожны бачыў, як узыходзіць сонца. Гэта ўжо радасць. Кожны ведае, як пачынае варушыць зямлю расток. Гэта таксама радасць. Кожны чуў, як шумліва перагаворваюцца паміж сабою дрэвы і пераспеўваюцца птушкі. І гэта таксама радасць. А я яшчэ бачыў вясёлку над лугам, чуў, як напінаецца под ігліцаю першы баравік. І хто можа сказаць мне, што я не ведаў радасці?

1) Чаканне радасці – гэта таксама радасць.
2) Што такое радасць?
3) Нечаканая радасць прыйшла ў нашу хату.
4) Радавацца трэба таму, што мы, людзі, жывём на гэтай цудоўнай зямлі.
5) Маёй радасці няма межаў.

**А10.** *Адзначце нумар сказа, які з'яўляецца тэзісам (пачаткам) да тэксту:*

Гэта кніга – зямля. Яна з першых дзён нашага жыцця вучыць гісторыі, мове, адкрывае нам усё новыя і новыя словы. Чалавеку дарагое тое месца, дзе ён нарадзіўся. Дарагія ўсе сляды, справы, памяць, якія пакінулі аб сабе продкі. Гэта наша найдаражэйшая спадчына. Памяць зямлі беражэ яе, нясе праз гады, праз вякі ў імёнах і назвах, паданнях і легендах.

1) Нас акружае жывое асяроддзе: жывёлы, птушкі, расліны, кветкі, дрэвы.
2) Кожная мясцінка мае сваю назву.
3) Якая самая цікавая кніга на свеце?
4) Прырода – самая цікавая кніга.
5) Кожны чалавек павінен любіць і шанаваць кнігі.

**Частка В**

**В1.** *Закончыце фармулёўку.*

Тып тэксту, які выкарыстоўваецца, калі неабходна высветліць, у чым прычына той ці іншай з'явы, што атрымалася ў выніку, – гэта …

**В2.** *Вызначце стыль тэксту. Адказ запішыце.*

Слова не можа маўчаць. Не толькі сказанае, вымаўленае, але і напісанае – мы яго перш за ўсё чуем. Жывое, яно гаворыць з намі. Гучанне слова – гэта яго жыццё, яго дыханне. Па абыходжанні са словам мы пазнаём і субяседніка – цікавы гэта чалавек, адметны спосабам свайго мыслення ці абыякавы. Поўнае самавыяўленне слова ў аб'ёме свайго гучання – гэта ўжо тая ступень дасканаласці, з якой слова можа перайсці, увасобіцца ў самы блізкі від мастацтва – музыку.

**В3.** *Знайдзіце і запішыце жанр публіцыстычнага стылю:*

1) пагадненне; 3) нататка; 5) паэма.
2) аўтабіяграфія; 4) раман;

**В4.** *Вызначце стыль тэксту і запішыце толькі тое слова (у пачатковай форме), якое не характэрна для дадзенага стылю.*

Дуб – род вечназялёных і лістападных дрэў і кустоў сямейства букавых. Вядома каля 600 відаў, пашыраных у паўночным паўшар'і і ў гарах трапічнага пояса. На Беларусі вядомы два віды ў прыродных умовах і сем відаў інтрадукавана. Дуб на Беларусі – адна з асноўных лесаўтваральных парод. Драўніна моцная і гнуткая, мае высокія фізія-тэхнічныя ўласцівасці і сімпатычную тэкстуру. Выкарыстоўваецца ў розных галінах прамысловасці і гаспадаркі.

**В5.** *Вызначце тып тэксту. Адказ запішыце.*

Як шчодра цвіў гэтай вясною сад! Усе дрэвы стаялі, як белыя, ружаватыя воблакі. Зямля была поўная квецені, пахаў. Сад звінеў пчоламі. Усё гэтае дзівоснае цвіценне звінела, спявала, славіла. Асыпалася квецень і ўсё больш усцілала зямлю пад дрэвамі. Асабліва багата было яе пад вішнямі і грушамі. Спачатку на зямлі было бела, потым было руда, іржава, потым нічога не было. Краса квецені жыла ўспамінам, шкадаваннем, што хутка ўсё мінулася.

**В6.** *Вызначце і запішыце, які кампанент прапушчаны ў схеме тэксту-апавядання:*

Уступ (завязка) – ... – развязка.

**В7.** *Вызначце спосаб сувязі сказаў у тэксце. Адказ запішыце.*

Была ціхая летняя раніца. Сонца яшчэ не паспела забрацца высока і пералівалася мільёнамі агеньчыкаў у роснай траве, паблісквала на вільготным лісці бяроз, рассыпалася залацістымі плямамі праз лапкі ялін і верхавіны хвой. У лесе пахла малінамі. Пах ад спелых ягад маліны ішоў далёка-далёка. Ягады пахлі летам, сонцам і муравою палян. Толькі еш, не лянуйся! І мядзведзік стараўся. Спачатку аскубаў ягады лапай, хапаўся, соп, набіваў рот малінай. Затым стаў больш пераборлівым. Стаіць, прыглядаецца, самую спелую ягадзіну выглядае. Выгледзіць, на-

цэліцца паважна языком, старанна зліжа ягадзіну ды вочы прыжмурыць ад вялікага задавальнення.

**B8.** *Напішыце, для якога стылю характэрны доказны выклад і тлумачэнне навуковай інфармацыі, актывізацыя лагічнага мыслення чытача (слухача). Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

**B9.** *Напішыце, для якога стылю характэрны: свабодны выбар слоў і выразаў, шырокае выкарыстанне слоў з эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, выкарыстанне выклічнікаў, часціц і інш. Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

## ТЭСТ 12

### Частка А

**А1.** *Вызначце стыль тэксту.*

Восенню, калі стаіць добрае надвор'е, шамаціць пад нагамі мох і сівец. Гарыць сіняваты верас на пасецы. Па ім поўзаюць вялікія мурашкі і лётаюць пчолы. З ракі прылятаюць вялікія зялёныя стракозы. Яны лапочуць над верасам доўгімі бліскучымі крыламі.

У бярэзніку з'явіліся маладыя баравікі, чырвоныя падасінавікі і белыя чашчавікі. На імшарах паспелі дурніцы, пачалі чарнець ажыны. Самыя смачныя зараз брусніцы. На пасецы яны растуць шышкамі, а каля пнёў нібы рассыпаны.

1) публіцыстычны; 4) гутарковы;
2) навуковы; 5) мастацкі.
3) афіцыйна-дзелавы;

**А2.** *Адзначце прыметы навуковага стылю:*

1) ацэначнасць; 4) пафаснасць мовы;
2) строгая дакладнасць; 5) афіцыйнасць.
3) лагічнасць;

**А3.** *Адзначце стыль, у якім ужываюцца наступныя словы (словазлучэнні):* адказчык, істец, рэзалюцыя, дзяржаўны закон*:*

1) публіцыстычны; 4) гутарковы;
2) навуковы; 5) мастацкі.
3) афіцыйна-дзелавы;

**А4.** *Адзначце жанры навуковага стылю:*

1) дысертацыя; 3) рэферат; 5) даведка.
2) акт; 4) балада;



**А5.** *Адзначце, якія кампаненты складаюць схему тэксту-апісання:*

1) агульнае ўяўленне аб прадмеце; 4) доказы;
2) развязка; 5) адносіны аўтара.
3) выразныя прыметы прадмета;

**А6.** *Адзначце стыль і тып тэксту.*

Мова – найважнейшы сродак зносін паміж людзьмі. Дзеля таго каб існаваць, людзі павінны дамовіцца паміж сабой пра супольныя справы, размеркаванне абавязкаў, пра вызначэнне агульных планаў і г. д. Ажыццяўленне падобнага тыпу праблем і дасягаецца пры дапамозе мовы. Галоўная функцыя мовы – быць сродкам зносін у грамадстве. Рэалізацыя гэтай функцыі адбываецца ў працэсе моўнай дзейнасці.

1) Мастацкі, разважанне; 4) навуковы, апісанне;
2) публіцыстычны, апісанне; 5) навуковы, разважанне.
3) публіцыстычны, разважанне;

**А7.** *Адзначце, якія сродкі тэкставай сувязі выкарыстаны ў тэксце.*

У лесе, у вячэрнім змроку, можна пачуць працяглыя загадкавыя гукі: «Р-р-ру... р-р-ру...» Гэта песня казадоя. У яго доўгае тулава з вялікай галавой. Дзюба невялікая, але рот вельмі шырокі. Казадой ляціць мякка і плаўна, бясшумна. З надыходам змроку ён ловіць у паветры розных буйных начных насякомых. Часам ён садзіцца на старую калоду, заўсёды не ўпоперак, а ўдоўж. Па афарбоўцы казадоя цяжка адрозніць ад кары дрэва. Крылы ў яго доўгія, і лётае ён добра, але лапы мае кароткія. Тому хадзіць казадой не можа, а ляжыць.

1) Паўтор слоў і словазлучэнняў; 4) злучнікі;
2) пабочныя словы і словазлучэнні; 5) аднатыпныя канструкцыі.
3) займеннікі і прыслоўі;

**А8.** *Адзначце, у якім парадку трэба размясціць сказы, каб атрымаўся звязны тэкст. Адзначце нумар правільнага адказу.*

1. Усе пачалі хавацца ад дажджу. 2. Буйныя цёплыя кроплі заляскалі па траве і лістах дрэў. 3. Жучкі, матылькі, мухі залезлі ў чашачкі кветак, мышка прытаілася пад чырвоным мухаморам, сінічкі ў дуплы пахаваліся. 4. Зусім знянацку сыпануў дождж. 5. Там і пасядзелі, пакуль лівень не скончыўся.

1) 1, 3, 4, 2, 5; 3) 4, 2, 3, 1, 5; 5) 4, 2, 1, 3, 5.
2) 5, 2, 1, 4, 3; 4) 3, 1, 5, 4, 2;

**А9.** *Адзначце нумар сказа, які выражае асноўную думку тэксту.*

Сцяжын на свеце многа. Прыкметныя і шырокія існуюць гадамі і служаць адразу многім людзям, цэлым пакаленням. Па кароткіх і вузкіх ходзіць чалавек значна радзей. Бываюць яшчэ зусім нязведаныя, амаль няходжаныя, на якія трапляе толькі выпадковы вандроўнік. У кожнага чалавека ёсць свая, асаблівая, самая прыгожая і непаўторная сцяжына.

1) Ёсць такая сцяжына і ў мяне.
2) Колькі ў свеце людзей – столькі і сцежак.
3) Лясныя сцежкі – самыя цікавыя і загадкавыя.
4) Кожны выбірае ў жыцці сваю сцежку, сваю дарогу.
5) Хадзіць па лясных і палявых сцежках – надзвычай цікавы занятак.

**А10.** *Адзначце нумар сказа, які з'яўляецца тэзісам (пачаткам) да тэксту.*

Размах крылаў пугача дасягае двух метраў. Густое пер'е бурага колеру з чорным стракатым малюнкам. Вочы з аранжавым абадком, вушкі-пер'е на вялікай галаве, вострая дзюба – кручок і кіпцюры. Усё гэта робіць пугача падобным да казачнай істоты. У нашай краіне пугач селіцца ў старых хваёвых або змешаных балотных лясах. Ён не можа прыстасавацца да блізкага суседства чалавека. Таму пугача з кожным годам становіцца ўсё менш.

1) Што за птушка такая – пугач?
2) Пугач – адна з буйнейшых соваў не толькі на Беларусі, але і на зямлі ўвогуле.
3) Сустракаецца пугач на тэрыторыі ад Еўропы да Японіі, ад Таймыра да Паўночнай Афрыкі.
4) Ці бачылі вы калі-небудзь пугача?
5) Пугач – сімвал старажытнай беларускай пушчы.

**Частка В**

**В1.** *Закончыце фармулёўку.*

Тып тэксту, які выкарыстоўваюць пры неабходнасці дэталёвай характарыстыкі прадмета ці з'явы з падрабязным пералічэннем шэрагу яго прымет, – гэта …

**В2.** *Вызначце стыль тэксту. Адказ запішыце.*

У нас лес такі чысцянькі, харошы. І вельмі растуць асавякі там. Асавячкі нападобія праўдзівых грыбоў: корань такі тоўсты, а як разрэжаш карэньчык, ён сінее. Маршанічкоў многа. Маршанічкі цвёрдзянькія харошыя грыбочкі, жоўцянькія, карэньчыкі тонянькія, а шапачкі тоўсцянькія. І скрозь, дзе мох, растуць. Бывая як нарвешся, дык хоць касу закладай.

**В3.** *Знайдзіце і запішыце жанр публіцыстычнага стылю:*

1) канвенцыя; 3) верш; 5) статут.
2) распіска; 4) справаздача;

**В4.** *Вызначце стыль тэксту і запішыце толькі тое слова (у пачатковай форме), якое не характэрна для дадзенага стылю.*

Калі вяртаешся з працяглага вясковага турнэ ў горад, усё здаецца табе тут інакшым, чым ты пакідаў. Як быццам і людзей стала на вуліцах больш, і рух аўтамашын і трамваяў жвавейшы, пашырэлі вуліцы і плошчы, прыбавілася дрэў і кветак. І не ведаеш, ці сесці ў першы ж трамвай або аўтобус, ці лепш прайсціся пешкі, павольна, углядаючыся ў змены, якія адбыліся за час твайго ад'езду.

**В5.** *Вызначце тып тэксту. Адказ запішыце.*

Ці мала на свеце цудоўных мясцін? Давялося мне пабываць усюды. Бываў я на поўдні і на далёкай поўначы, захапляўся неразгаданым цудам прыроды – паўночным ззяннем. Ласкавы сонечны поўдзень, казачныя прасторы Чорнага мора, снежныя горы Каўказа пакінулі незабыўны ўспамін. Аднак дзе б я ні быў, якія б цуды ні здзіўлялі, перад маімі вачыма заўсёды ззяла прамяністае святло роднага мястэчка, дзе жылі мае бацькі і бацькі маіх бацькоў. Заўсёды хочацца прыгадаць кожны куточак, кожную сцяжынку, узгорачак і лагчынку. Гэтае мястэчка для мяне самае ветлівае, утульнае і па-свойму прыгожае, бо тут прайшлі мае дзіцячыя гады і юнацтва.

**В6.** *Вызначце і запішыце, як называецца спосаб сувязі сказаў у тэксце, калі кожны наступны сказ дапаўняе змест папярэдняга. Адказ запішыце ў жаночым родзе назоўнага склону адзіночнага ліку.*

**В7.** *Вызначце спосаб сувязі сказаў у тэксце. Адказ запішыце.*

Заўсёды славіўся Слуцк сваімі пладовымі садамі. Асабліва шырока былі вядомы мясцовыя грушы – слуцкія бэры і жоўтыя слівы рэнклоды. Гэтую сваю даўнюю славу Слуцк не толькі захаваў да нашых дзён, але і павялічыў. Зямля на Случчыне багатая, урадлівая, глебы тут тлустыя, чарназёмныя. Случчына багатая не толькі садамі і хлебам, але і песнямі, і працавітымі, умелымі людзьмі.

**В8.** *Напішыце, які стыль абслугоўвае духоўную сферу жыцця грамадства, выконвае камунікатыўную і эстэтычную функцыі. Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

**В9.** *Напішыце, для якога стылю характэрны: строгая танальнасць і канкрэтнасць, выкарыстанне канцылярскіх штампаў, дзеясловаў загаднага ладу і інш. Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

## ТЭСТ 13

### Частка А

**А1.** *Вызначце стыль тэксту.*

Летам бывая свята Купала. Перад святам збіраіцца маладзёж з нескулькі дзеравень і ідзець дзе-небудзь на рэчку. З гармонікам, з музыкай. На полі цвятоў набяруць. Паюць песні купальныя і ўсю ноч гуляюць. Смільчакі хадзілі глядзець, ці цвіцець папарацъ. Ніякіх яны там цвятоў папараці ні нашлі, ну было дужа вясёла.

1) публіцыстычны; 3) афіцыйна-дзелавы; 5) мастацкі.
2) навуковы; 4) гутарковы;

**А2.** *Адзначце прыметы публіцыстычнага стылю:*

1) доказнасць; 3) даступнасць; 5) аператыўнасць.
2) даходлівасць; 4) спантаннасць маўлення;

**А3.** *Адзначце стыль, у якім ужываюцца наступныя словы (словазлучэнні):* сонейка, родны куток, цёплы ветрык, сыпануў дождж:

1) публіцыстычны; 3) гутарковы; 5) мастацкі.
2) навуковы; 4) афіцыйна-дзелавы;

**А4.** *Адзначце жанры афіцыйна-дзелавога стылю:*

1) нататка; 3) п'еса; 5) пратакол.
2) анатацыя; 4) даверанасць;

**А5.** *Адзначце, якія кампаненты складаюць схему тэксту-апавядання:*

1) адносіны аўтара; 3) тэзіс; 5) развязка.
2) уступ (завязка); 4) асноўная частка;

**А6.** *Адзначце стыль і тып тэксту.*

Мой пітушок красівый, грібень і бароды красныі, бальшыі, сам рабінькій. Ходзіць па волі, цэлый дзень гуляіць агдзе хочыць. Усюдых водзіць курэй. А ноччы пяець у адно і тоя ж урэмя. Бывала часоў ні было, уставалі па пітухах. Запяець пітушок, значыць дзвінаццаць часоў.

1) мастацкі, апісанне; 4) гутарковы, апісанне;
2) публіцыстычны, апавяданне; 5) гутарковы, апавяданне.
3) мастацкі, апавяданне;

**А7.** *Адзначце, якія сродкі тэкставай сувязі выкарыстаны ў тэксце:*

Пачалася завіруха. Вецер закруціў снежны пыл. Зашумелі дрэвы. Усюды, куды ні глянь, белая сцяна снегу. Усе пахаваліся ад завірухі. Птушкі зашыліся пад стрэхі, дзікія звяры пахаваліся ў гушчарах. Скончылася завіруха. Усё прыціхла. Дарога знікла. Каля дрэў і платоў узвышаюцца снежныя гурбы.

1) Паўтор слоў і словазлучэнняў; 4) злучнікі;
2) аднатыпныя канструкцыі; 5) няпоўныя сказы.
3) займеннікі і прыслоўі;

**А8.** *Адзначце, у якім парадку трэба размясціць сказы, каб атрымаўся звязны тэкст. Адзначце нумар правільнага адказу.*

1. Гэты сур'ёзны птах з'яўляецца часткай беларускага краявіду. 2. Сваім бела-чорным адзеннем і чырвонай дзюбай ён ярка вылучаецца на фоне зялёнай травы і блакітнага неба. 3. Вунь ходзіць па зялёнай лугавіне бусел. 4. Народ любіць бусла, лічыць яго добрым суседам. 5. З людзьмі ён жыве ў дружбе, гняздуецца часта на стрэхах будынкаў, на дрэвах каля хат.

1) 1, 3, 4, 2, 5; 3) 4, 2, 3, 1, 5; 5) 3, 2, 1, 4, 5.
2) 3, 2, 1, 5, 4; 4) 5, 2, 1, 4, 3;

**А9.** *Адзначце нумар сказа, які выражае асноўную думку тэксту.*

Браслаў раскінуўся на перашыйку між азёрамі. Пасярод перашыйка высіцца гара, на якой калісьці знаходзіўся замак. Ён быў пабудаваны ў часы полацкага князя Брачыслава. Цяпер унізе захаваліся па схілах нязначныя рэшткі мураванай сцяны. Аховай для замка служылі водныя прасторы. Вада акружае город з усіх бакоў. Уражанне такое, быццам знаходзішся на востраве. З вяршыні гары відаць на даляглядзе цэлы ланцуг азёр, малых і вялікіх, доўгіх і круглых.

1) Па імені князя горад і называўся раней – Брачыслаў.
2) Замак быў вялікі.
3) Браслаўшчына – край сініх азёр.

4) З вышыні замка відаць усё наваколле.
5) Месца для Браслаўскага замка было выбрана ўдала.

**А10.** *Адзначце нумар сказа, які з'яўляецца тэзісам (пачаткам) да тэксту.*

У італьянцаў – гэта Рым. Яны яго называюць вечным горадам. Украінцы такім горадам лічаць Кіеў. Гісторыя ж Беларусі пачыналася ў старажытным Полацку, які заслужыў права звацца «бацькам беларускіх гарадоў». Няма ў Беларусі іншага горада, што даў бы Радзіме і свету столькі выдатных людзей, як Полоцк.

1) У кожнай краіне ёсць горад, з якога бярэ пачатак яе гісторыя.
2) Кожны беларус ведае «імя» Полацк.
3) Калі вы яшчэ не былі ў Полацку, дык абавязкова павінны паехаць туды.
4) У Полацку кожны дом, камень – гэта наша гісторыя, якую мы абавязаны ведаць.
5) У Полацку нарадзіўся Францыск Скарына.

**Частка В**

**В1.** *Закончыце фармулёўку.*

Тып тэксту, які служыць для выражэння часавай, хранalагічнай паслядоўнасці дзеянняў або з'яў, паказвае сувязь паміж дзеяннямі, – гэта …

**В2.** *Вызначце стыль тэксту. Адказ запішыце.*

Дзень быў спякотны і ветраны. Хвалявалася жытнёвае мора. Хвалі набягалі адна на адну, разбіваліся ў нізіне, адступалі назад на ўзгорак, на нейкі момант нібы замiралі на адным месцы. Нахілялася збажына, лажыўся колас на колас – цямнеў колер, на ўзгорку рабіўся цёмна-васковым, з шэрым адценнем, у нізіне – жоўта-зялёным. Там азіміна яшчэ не зусім паспела. Прабягала хваля – выпрамлялася жыта, і колер яго адразу зменьваўся, набываў натуральныя вясёлыя летнія фарбы.

**В3.** *Знайдзіце і запішыце жанр афіцыйна-дзелавога стылю:*

1) навуковы даклад; 3) прамова на сходзе; 5) казка.
2) пародыя; 4) заява;

**В4.** *Вызначце стыль тэксту і запішыце толькі тое слова (у пачатковай форме), якое не характэрна для дадзенага стылю.*

Навокал быў густы травяністы луг, усыпаны, нібы пацеркамі, расою. Здаецца, зачапі нагою – і расінкі зазвіняць, як шкляныя. Сям-там трава была скошана, і толькі цяпер пачуўся пах сена. Крыху далей стаяла малагабарытная, хат на дзесяць, вёсачка.



**В5.** *Вызначце тып тэксту. Адказ запішыце.*

Крочу па зялёным мяккім моху. Які цудоўны дыван разаслала тут прырода! Бярозы расступаюцца, быццам хочуць даць камусьці месца. На невялікай палянцы стаіць магутны дуб. Ён узнёс сваю вершаліну высока ў неба, і ва ўсёй яго постаці столькі важнасці, гонару, што бярозы нібыта баяцца падысці бліжэй. Яны тоўпяцца навокал, як стройныя дзяўчаты ў карагодзе.

**В6.** *Вызначце і запішыце, як называецца спосаб сувязі сказаў у тэксце, калі змест першага сказа дапаўняецца зместам усіх наступных сказаў.*

*Адказ запішыце ў жаночым родзе назоўнага склону адзіночнага ліку.*

**В7.** *Вызначце спосаб сувязі сказаў у тэксце. Адказ запішыце.*

У прыродзе можна назіраць дзіўную з'яву. Мёртвая, халодная і непрыступная скала прастаіць мільёны гадоў, вытрывае гарачую спёку і траскучыя маразы, дажджы ды навальніцы. А маленькае насенне бярозы, трапіўшы ў расколіну скалы і пусціўшы карэнне, з часам пранікае ўсё глыбей у цвердзь. І праз нейкі момант наступае час, калі непрыступная скала раптам не вытрымлівае націску бярозкі і рассыпаецца. Бо здаровы і дужы расток заўсёды знойдзе разумную дарогу, каб прабіцца да сонца, да кіслароду, да сокаў.

**В8.** *Напішыце, які стыль абслугоўвае сферу грамадскіх адносін і адрасуецца шырокаму колу чытачоў (слухачоў). Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

**В9.** *Напішыце, для якога стылю характэрна шырокае выкарыстанне разнастайнай лексікі, вобразных моўна-выяўленчых сродкаў. Адказ запішыце ў пачатковай форме.*

## Рэкамендаваная літаратура


1. Бадзевіч, З. І. Беларуская мова : дапам. для падрыхт. да абавязк. цэнтраліз. тэсціравання і паступлення ў ВНУ / З. І. Бадзевіч. – Мн. : Юніпрэсс, 2005.
2. Беларуская мова : дапаможнік для абітурыентаў / Э. Д. Блінава, Н. В. Гаўрош, М. Ц. Кавалёва [і інш.]. – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мн. : Выш. шк., 1994.
3. Беларуская мова : Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Фразіалогія. Марфемная будова слоў і словаўтварэнне. Марфалогія : падручнік / Я. М. Адамовіч, А. М. Клачко. – 2-е выд., перапрац. – Мн. : Выш. шк., 1992.
4. Беларуская мова. У 2 ч. Ч. 1. Фанетыка. Арфаэпія. Графіка. Арфаграфія. Лексікалогія. Фразіалогія. Марфемная будова слоў і словаўтварэнне. Марфалогія : падручнік / Я. М. Адамовіч, Л. А. Акаловіч, Г. Ф. Андарала [і інш.] ; пад агул. рэд. Л. М. Грыгор'евай. – 4-е выд., перапрац. і дап. – Мн. : Выш. шк., 2001.
5. Беларуская мова. У 2 ч. Ч. 2. Сінтаксіс : падручнік / Я. М. Адамовіч, Н. І. Бурака, Л. М. Грыгор'ева [і інш.] ; пад агул. рэд. Л. М. Грыгор'евай. – 3-е выд., стэр. – Мн. : Выш. шк., 2001.
6. Вярбіла, У. М. Багата, родная ты мова : матэрыялы і метад. парады па развіццю звяз. мовы вучняў, 4–8 кл. : дапаможнік для настаўніка / У. М. Вярбіла, Я. М. Лаўрэль, М. Г. Яленскі. – Мн. : Нар. асвета, 1988.
7. Кавалёва, М. Ц. Беларуская мова : дапаможнік для вучняў ст. кл. / М. Ц. Кавалёва, Л. П. Падгайскі. – Мн. : Нар. асвета, 1982.
8. Каўрус, А. А. Стылістыка беларускай мовы : дапаможнік / А. А. Каўрус. – 3-е выд., перапрац. – Мн. : Нар. асвета, 1992.
9. Малажай, Г. М. Беларуская мова : тыповыя памылкі на цэнтралізаваным тэсціраванні / Г. М. Малажай, А. В. Дзябёлая, Л. В. Леванцэвіч. – Мн. : Аверсэв, 2007.
10. Міхайлаў, П. А. Беларуская мова : тэматычны трэнажор. Лексікалогія. Фразеалогія. Асновы стылістыкі : для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання / П. А. Міхайлаў, С. І. Фацеев. – Мн. : Аверсэв, 2008.
11. Сіўковіч, В. М. Беларуская мова для старшакласнікаў і абітурыентаў / В. М. Сіўковіч. – Мн. : УніверсалПрэс, 2005.




## Змест

Вучэбнае выданне

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

## СТЫЛІСТЫКА

Практыкум
для навучэнцаў І курса


Складальнікі
**Акуліч** Наталля Мікалаеўна
**Ракей** Ірына Раманаўна

Заг. рэд.-выдав. аддзела В. П. Казельская
Рэдактар Г. Л. Говар
Карэктар В. А. Арцёмчык
Камп'ютэрная вёрстка А. І. Мірутка

План выдання 2008 г. (паз. 44)

Выдав. ліц. № 02330/0494033 от 08.01.2009.
Падпісана ў друк 9.03.2009. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Папера пісчая. Гарнітура Таймс. Друк рызаграфічны.
Ум. др. арк. 5,58. Вуч.-выдав. арк. 4,45. Тыраж 80 экз. Заказ 40.

Выдавец і паліграфічнае выкананне Установа адукацыі
«Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж»
220005, г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 62.


